КНІГАРНЯ ПІСЬМЕННІКА

Марыя Мартысевіч

# амбасада

*вершы свае і чужыя*

Мінск, «Кнігазбор», 2011

**УДК 821.161.3-1**
**ББК 64(4 Беи)-5**
**М 29**

*Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў*
*«Кнігарня пісьменніка». Выпуск 15.*
*Серыя заснаваная ў 2009 годзе*

**Мартысевіч, М.**
**М 29** Амбасада : вершы свае і чужыя / Марыя Мартысевіч. — Мінск : Кнігазбор, 2011. — 120 с. — (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка» ; вып. 15.)

ISBN 978-985-7007-08-0.

У другую кнігу Марыі Мартысевіч увайшлі яе ўласныя вершы і вершы замежных паэтаў, перастворaныя ёй па-беларуску. Кніга таксама змяшчае два адносна вялікія тэксты: другое (папраўленае і дапоўненае) выданне паэмы «Сястра Зоя і Канец Свету» і новую драматычную паэму «Амбасада». Паводле аўтаркі, рэйтынгавы серыял з такой назвай можна было б зняць у Беларусі.

**УДК 821.161.3-1**
**ББК 64(4 Беи)-5**

**ISBN 978-985-7007-08-0**

*Прысвячаю*

*Марыі (1919—1993)*
*Зоі (1927)*



# Poets Never Survive

Адным летам для забавы і моўнай практыкі я запісалася на дабрачынныя курсы англійскай мовы. Праводзілі заняткі вясёлыя амерыканскія баптысты. Каб мы не сумавалі і ў поўным аб'ёме *had* свой *fun*, наш выкладчык Рон з Джорджыі задаваў нам розныя «дзелавыя гульні», падчас якіх, апроч новых амерыканскіх ідыёмаў, мы мусілі засвойваць розныя карысныя амерыканскія каштоўнасці.

На адным з заняткаў нас чакала Гульня ў Сэрца. «У чарзе па новае Сэрца ў цэнтры трансплантацыі знаходзяцца 28-гадовая маці траіх дзяцей, 19-гадовая цяжарная бяздомная дзяўчына, 52-гадовы паэт, які стаў кумірам мільёнаў і трапіў у шорт-ліст Нобелеўскай прэміі па літаратуры, 60-гадовы кардынал, які можа стаць наступным Папам Рымскім, і 80-гадовы вучоны, які абвесціў, што ён на парозе адкрыцця дзейснага леку ад СНІДу. Сэрца адно. Калі зрабіць перасадку аднаму пацыенту, чацвёра памруць. Вы — кансіліум дактароў і павінны вырашыць, каму дастанецца Сэрца». Адразу агаворвалася, што мы не мусім браць да ўвагі медыцынскія паказнікі. Бо зразумела, што па амерыканскіх законах ніхто ніколі не аддасць Сэрца, скажам, наркаману, а пажылы чалавек проста не перанясе такой аперацыі.

Абмеркаванне ў нашай малой групе адразу набыло асабісты характар. Так атрымалася, што з чатырох дзяўчат адна была паэткай, адна — цяжарнай, адна — навуковай супрацоўніцай і адна — хатняй гаспадыняй і маці. Галасы адразу радыкальна раздзяліліся. Але Рон паставіў умову: прыйсці да агульнага рашэння. Што за казкі, Нобель ужо каторы год дастаецца празаікам, падумала я — і, сумна ўздыхнуўшы, прагаласавала за трохдзетную маці.

І вось надышоў час абвяшчаць вердыкты па малых групах.

Першая група «ўратавала» цяжарную дзяўчыну. Другая група «ўратавала» маці. Наша група таксама «ўратавала» маці. Чацвёртая група «ўратавала» вучонага, але ўзнялася яе

ўдзельніца, пажылая спадарыня і сказала: маладыя як сабе хочуць, я, хоць і праваслаўная, аддам Сэрца будучаму Папу.

Рон, баптыст, падышоў да спадарыні і паціснуў ёй руку. «Вы — першая, хто на маёй памяці «ўратавала» Папу Рымскага, — сказаў ён. Я ўжо каля дзесяці год праводжу курсы ў вашай краіне. На першым месцы — шматдзетная маці, у спіну якой дыхае цяжарная — нягледзячы на адкрыты намёк, што яна сацыяльна неўладкаваная і, магчыма, прастытутка. Часам мае студэнты «ратуюць» вучонага. Але паэты — гэтыя не выжываюць ніколі». — «А навошта ратаваць паэта? — пачуліся галасы. — Калі ён стаў кумірам мільёнаў, ён і так будзе жыць. У іх Сэрцах».

І тады я згадала, як на адным беларускім інфармацыйным партале была з'явілася навіна «Народны паэт Беларусі Ніл Гілевіч трапіў у рэанімацыю», змешчаная рэдактарамі ў рубрыку «Забавы» («Развлечения»). Рубрыкі «Культура» на сайце проста не было. Пратэст карыстальнікаў, сярод якіх была я, падзейнічаў, і навіну перамясцілі ў больш адпаведную сітуацыі рубрыку. Але пасля Гульні ў Сэрца я падумала: а можа, не было ніякай памылкі? Бо жыццё паэта, хвароба паэта, і пагатоў, смерць паэта™ — гэта і сапраўды *fun*, забава для чытача. Напісаўшы геніяльныя творы і стаўшы кумірам мільёнаў (ці нават не стаўшы ім), паэт проста абавязаны памерці: ад чужой кулі ў жывот (усё адно потым напішуць, што ў Сэрца), ад уласнай кулі ў рот, ад крыві горлам, ад сухотаў у Ялце, выйшаўшы ў акно, выкінуўшыся з моста, ад перадозу наркотыкаў, ад п'янкі ў лужы ванітаў, у чарзе на перасадку, саступіўшы Сэрца шматдзетнай маці. Смерць у такім выпадку — таксама творчы акт, тоесны зборніку вершаў ці паэтычнай вечарыне, а мо' і каштоўнейшы за іх. Рон меў рацыю: сапраўдныя паэты не выжываюць ніколі.

Так выпала, што я належу да нацыі паэтаў і жыву ў краіне, якая ніколі не аддасць паэту Сэрца. Тым цікавей пісаць тут вершы і перакладаць іх.

# Пастанова

З 1 ліпеня ў кожным му-ні-цы-па-лі-тэ-це
павінны ляжаць пералік правоў Паэзіі ў свеце:

- зрабіць кар’еру ад вясковага дурня да гарадскога вар’ята;

- колькі разоў мацюкнуцца і трапіць праз гэта за краты;

- (на выбар) не быць зразумелай / быць глупаватай;

- гандляваць натхненнем;

- натхняцца любою Музай;

- схіляцца аднолькава перад крыжом, паўмесяцам і мезузай;

- нават у планетарый хадзіць са сваімі зорамі;

- пры кожнай зручнай нагодзе прысягаць над разорамі;

- не сядзець на месцы й, мяняючы гарады,
хапаць кіроўцу за рукі, калі той вязе не туды, —

хай гэта й створыць аварыйную абстаноўку на трасе,
хай і будуць пляткарыць потым, што Паэзія напілася.

**Канстанты Ільдэфанс Галчынскі**
*з польскай*

## Айчынай мне — музыка

Айчынай мне — музыка. Ты ў ёй — прачулая нота,
з якою на вуснах вяртаюся ў музыку, як дадому.
Саскія, ты мне патрэбная. Мацнейшая за адзіноту
смерць хіба. Але больш я цябе не аддам нікому.

Калі ж па маім адчайным благанні ўсе херубімы
хвалою табе разгучаць усё наверсе,
калі скажу больш: ты каштоўнейшая за рубіны, —
пра адно прашу цябе, Саскія: не фанабэрся.

Пяць год я маўчаў, як камень: штурхні — і ў прадонні знікне,
пяць год я маўчаў, як лёд, — што будзе, як лёд растане?
Ды акавітай на прагныя вусны сплыло каханне,
развязаўшы язык мне.

Слухай, Саскія, што б ні спаткала цябе і мяне,
хмаркаю залатою ўспомнішся людзям,
бо гэта ўжо напісана агнём на сцяне:
кахаць цябе так, як я, больш ніхто не будзе.

Пацягніся ж па неўміручасць, як па смарагд царскі,
Вазьмі яе, як бярэш стужку, яблык або гітару.
Гітара разладзіцца. Стужка і яблык спарах-
неюць. Ды не ў маёй кнізе. Пасміхніся мне, Саскія.

*1945*

## Sweet Home

Увайшоў? Ну давай, прабірайся цішком,
госць неразуты.
Вось пад кранам насыпана парашком
(нехта з хатніх працуе з мазутам).

Вось вядро чырвонае, ў ім ануча сухая,
вось астра на падваконні, яна высыхае,

вось парцаляна ў секцыі, вось чыгунная ванна,
вось радыёдатчык (унізе машына запаркаваная),

вось футраная цацка — мядзведзь вялізны,
вось даляры ў шкарпэтцы, у ніжняй шуфлядзе з бялізнай,

вось нацыянальны пашпарт — у ім мультывіза,
вось кампутар, накрыты сурвэткай, нібы тэлевізар,

вось тэлевізар на кухні, вось тэлевізар у залі,
праходзь, мы яшчэ не ўсё табе паказалі,

вось люстра ў раме з парэшткамі пазалоты,
вось кеды, сандалі, чаравікі, камелоты,

вось кілім на сцяне, вось на падлозе кілім,
вось канапа і ложак — на іх мы спім,

вось алень-гадзіннік — ён адлічвае час,
вось чорная цемра — яна праглынула нас.

І ў гэтай густой, неправетранай цемрадзі
ты ўбачыш зваду і горыч — іх і крадзі.

# Слава — Ісусу Хрысту

*~~Здравствуй, Господи наш Иис~~*
*Добры дзень, Езу.*

*Бацюшка задаў на ўроку пісаць Табе ліст,*
*вось і я да Цябе лезу.*

*Баба Стэфа гавора, што Ты памёр і ўваскрос,*
*і Ты усё можаш,*
*і што Ты нават лепей, чым Дзед Мароз,*
*бо Ты Сын Божы.*

*У мяне ўсё добра, хоць з сенцябра*
*я жыву ў дзярэўне,*
*трохі сумую за пацанамі з двара*
*і баюся клявачага пеўня.*
*ЗБ, калі шчыра, — мой самы нелюбімы прадмет:*
*бацюшка лае нас з Тадзікам, што не ўмеем крэсціцца,*
*Радзюка называе Нехрысць і Магамет,*
*а дзяўчонак, каторыя ў бруках, заве блудніцы.*

*Што яшчэ расказаць Табе?*
*Пра двойку па МРБ*
*(не здаў каляндар прыроды за прошлы месяц)?*
*Як дзяўчонак на дыскатэцэ мы аблівалі,*
*як мы з Тадзікам Радзюка хацелі пабіць, але не спаймалі?*
*Карацей, грахі ёсць, хоць мне ўсяго толькі 10.*

*Бацюшка гавора, званок і каб я здаваў,*
*так што бліжэй да справы.*
*Так зрабі, каб маму не пазбаўлялі бацькоўскіх праў*
*(каб не было падставы).*
*Прабач, калі адарваў ад сур'ёзных спраў.*
*Твой ~~раб~~ Станіслаў.*

\- - -
см. (о. Николай)

# Смерць у Вене...

Я хачу быць пенсіянеркай і жыць у Вене,
ўсё жыццё выкладаючы там Буало й Малерба,
каб Дунай кожны Божы дзень ля мяне струменіў,
і каб кахлю ў ваннай мне клалі дужыя сербы.

Мець сяброўак у Грацы; ліць мужу ў каву каньяк ці
арманьяк; не раздумваючы, Еўропа ці не Еўропа, —
жыць у Вене шчасліва і доўга й памерці на трэцім акце
«Парцыфаля» на левым ці правым балконе Штатсопа.

**Багдан-Ігар Антоныч**
*з украінскай*

## Балада пра блакітную смерць

Дамоў хімеры і падворкаў студні,
бы чэраў цемрадзі, і вузкасць мокрых сходаў,
бясконцасць іх, і прорва ночы студзіць,
і цёмных брамаў сум, і цвілі млосны подых.
Паперы змяты і запэцканы ашмётак,
сем простых словаў: «Просім не вініць нікога,
злачынцы не шукаць!» Крадзецца ў ціхіх ботах
бы мудры кот, па дахах ветаху падкова.

З аголеных дратоў — букеты сіняй пары,
блакіт крыві бруіць з распухлых медных жылаў.
З-за шафы, што ў паўсне застыла пыльным, шарым,
хтось сола на кларнеце смутку ў морак выліў.

Гарыць струмень блакіту, бы душа, натхнёны,
і палкі шэпт вар'яцтва сэрцы два калыша
на дне свядомасці.
                                        І ноч у вір шалёны!
І сінім квеццем газ затчэ кілімы цішы!

Пасцель — ладдзю раскошы і тугі кахання
мыш ветаху мяце хвастом, цынічна й куца,
і з целам цела ў цесным сошчапе расстання
у прагных курчах болю й асалоды б'юцца.

Над імі хіліцца анёл блакітны газу
і сінім полымем вянчае іх, бы міртам,
і душы, бы лілеі, аддае экстазу,
пакуль не дагараць апошняй кропляй спірту.

*1934*

# Мабілізацыя

Вось адзін мой дзядзька. Без цёткі не можа жыць,
як яе няма — зрываецца і бяжыць,
потым падае, сікаецца і скавыча тупа.
Цётка кажа, гэта Альцгеймер у яго галаве
заступіў яму розум і звіліны мозгу рве,
абяцае, што дасць яму пастраляць па Маскве
і сягнуць на эсмінцы тваіх берагоў, Гвадэлупа.

Вось другі мой дзядзька. Ён доўга жыў у глушы,
у яго галаве насіліся скавышы,
ён уцёк з дому, сеў на цягнік — і вось ён у Вільні.
Мая цётка й кузіны не ведаюць, што ён там,
танчыць на Гедыміна й паказвае «фак» мянтам,
але хутка Блэйлер скамандуе: «По местам!» —
і аформіць загад, і дашле яму на мабільны.

А вось ты. Ты — мой сябар і ты надзвычай круты,
ты даеш часу хабар і жжош — за сабой масты,
але будзь ты знаток, футбаліст, рэканструктар ці геймер,
два на метр і два ў глыбіню — гэта й твой маштаб.
Першы трэмар — ну вось, і цябе выклікаюць у штаб
генералы Базедаў, Паркінсан і маршал Альцгеймер.

# Трымацца

Тэлефанаванні ў вёску —
як сувязь з лініяй фронту.
*— Бабуля, ты як там?*

*— Трымаюся!*
*Мінус пятнаццаць,*
*усё завеяла,*
*хаджу з кавенькаю,*
*каб не ўпасці, —*
*трымаюся!*

*— Трымайся!*

*— Плюс трыццаць пяць,*
*сяджу ў цяньку,*
*не выходжу апоўдні,*
*каб не самлець, —*
*трымаюся!*

*— Трымайся!*

*— Артрыт замучыў,*
*радыкуліт наступае з флангаў,*
*ціск скоча,*
*вены здрадзілі...*

*— Будзем на выходных,*
*падвязём мазі,*
*Трымайся!*

*— Трымаюся...*

...Яна кладзе слухаўку і выходзіць на поле,
бо «як гэта можна, каб нашыя — ды сядзелі?»
Ейная старасць прывязвае да плоту хвасолі —
пры дзеле.

# Adnaklasniki.by

— *А я ж яе біў, біў,* — кажа Сашка праз маску,
якая хавае ад грыпу, —
*а ана мяня астанаўліваег у «ГІПА»,*
*каля малака,*
*і такая прыет, пака,*
*скока лет, скока зім,*
*как там Лёха, а как Максім,*
*і грыт, у нас тут устрэча ў кафэ,*
*гэта ж колькі: год дзевяць? — о, дзесяць как раз прашло,*
*ты, грыт, прыхадзі, пасядзім,*
*спамінаць будзем, как было.*
*А ў самой брыльянт на пальцэ,*
*дзіцё ў цялежке,*
*«бэ-эм-вэ» на брэлке,*
*рыецца ў малаке,*
*такая жэ рэзвая,*
*толькі касічкі адрэзала.*
*А я гру, што там успамінаць, как я цібя біў?*
*А яна грыт, я не пра эта, Саша, я саўсем не пра эта...*
*І засмяялась, как будта прасціла мне.*

Ці варта Сашку ісці на сустрэчу выпускнікоў у кафэ?

– Так.
– Не.

# Old School

Сённяшняя школьная праграма
састарэла маральна.
Школьная праграма, якую зацвердзяць заўтра,
таксама састарэла маральна:
сакрэт сацыяльнай стабільнасці ў тым,
што вучням належыць вучыцца
па маральна састарэлай праграме.
І адзіны спосаб
даць гэтаму рады, сяброўка, —
галасаваць нагамі.

Туфлі — аснова: галоўнае — трохдзюймовы
абцас і вострые насок,
каб «немец» страціў дар мовы,
каб фізрук праглынуў свісток,
каб хімік над колбай не здолеў стрымаць дрыготкі.
Цяпер уважліва: правільна падбіраем калготкі,
а лепей панчохі (панчохі — прыкмета сталення).

І нарэшце спадніцу — вышэй ад каленяў,
каб географ рэльеф гэты позіркам
не змог абмінуць ніяк,
каб біёлаг згадаў пра пахвіну,
каб настаўнік гісторыі
ўсе сорак пяць хвілінаў
меў гарантаваны стаяк.

# Міратворчасць

Дрэнна, калі міратворца страляе ў паветра.
Добра, калі міратворца стварае міра.
Проста з паветра, поўную блакітную каску,
на патрэбы як простых вернікаў, так і кліру.

Бо калі міратворца спраўна стварае міра —
то тады цудатворца спраўна стварае цуды,
і паводле плану ўсё: плача Божая Маці,
і цалуе Юда, і пасміхаецца Буда.

# Цьмяныя месцы ТаНаХу

Сяброўства паміж футбольнымі клубамі варагуючых ешыботаў
у парадку рэчаў, калі не закленіла клемы,
розныя, як розніца між тым, хто вырашыў быць готам,
і тым, хто эма;

бо прафесійны спорт аб'ядноўвае болей за Тору
і за Талмуд прафесійны спорт аб'ядноўвае болей,
як аб'ядноўвае прага першых затораў
у аўташколе;

але для фанатаў згаданых клубаў мілей, чым арабу Мека, —
наваляць футбольным фанатам варожага ешыботу,
бо сценка на сценку для чалавекаў — яно, як для чалавека —
субота.

# Праведніку народаў свету

Акупацыя — гэта, як правіла, не назаўжды.
Што прапіскай тваёй ні было б: Слуцак, Пінск або Тураў, —
Будзь гатовы: твой горад па сплыве вялікай вады
Удыхне ў свае лёгкія новую камендатуру.

І калі з сінагогі выб’юць няправільны ўрад,
І калі ў сінагогу правільны ўрад уедзе,
Будзь гатовы прымаць на падворку стыхійны парад:
Хлопец з табельнай зброяй, жаўнер апалчэння, суседзі.

*«Мы шмат год ненавідзелі злыдняў на злом галавы.*
*Як так выйшла, што ты спакойна застаўся жывы?»*

Ты адкажаш: *«Загінуць было, натуральна, лепей.*
*Але я мусіў жыць: я габрэя хаваў у склепе».*

Суседзі апусцяць свае даўгія нажы.
Хлопец з табельнай зброяй скамандуе: «*Пакажы*».

У падполе, дзе паратунак тоіцца твой,
Будзе цяжкі пах, які па сабе пакідаюць людзі,
Міска, посцілка і Пяцікніжжа ветхі сувой.
Будзе ўсё, але габрэя ў схове не будзе.

Уцёк, нібыта быў вязень,
Пархаты блазен!

Вось ён, канец тваёй асабістай вайны:
Хлопец з табельнай зброяй вядзе цябе да сцяны.

Але калі смерць падасца блізкай такой,
Нехта нахіліцца й спыніць кулю рукой.

Хлопец спытае: *«Ты ягоны габрэй?»*
*«Аз есмь, будзь з ім дабрэй»,* —

Скажа твой габрэй і ўзнясецца з гары Табар.
Твой нядзейснены кат са ўздыхам схавае табель.

Пры жыцці ты б мог жыць і лепей.
Але помні: габрэй у склепе.

**Сяргій Жадан**
*з украінскай*

# Стансы для нямецка-фашысцкіх захопнікаў

а.

Лілі Марлен, ты расла не ў саўку,
ты ўвогуле не ўяўляеш, што такое савок,
але гэтую палкую песню ў кожным палку
цягнулі, трымаючы ў ранцах сваіх на замку
між парнаграфічных паштовак чулы матулін радок.

б.

Спачатку быў чэрвень і цэлае лета вайны.
Пасля, пратырчаўшы пазіцыі, як найхутчэй
сыходзілі «нашы», як самі сябе яны
пяшчотна звалі, і, мабыць, няма віны
ў такой беспадстаўнай любові да малазнаёмых вачэй.

в.

Такая была ў іх умова, такі ўжо ім быў запавет
рабоча-сялянскага буды, такі праваслаўны чын,
каб кожны ў сваёй айкумене, зорак сягнуўшы й планет,
знайшоўшы прадмет любові, любіў сабе гэты прадмет,
канечне, апроч дэбілаў і адзінокіх мужчын.

г.

Ды не ўтаймаваць вас, гарэзы рэйнскіх працоўных далін,
і, дзеці германскіх лясоў, вы прыйшлі пакрысе,
і ўсе гараджане дзівіліся гэтай красе,
за выняткам агітатара, які ўжо мірна вісеў
і быў адзін невясёлы, у прынцыпе быў адзін.

д.

Наіўны і смешны гармідар — болей такога нідзе:
сівенькі пятлюравец чысціць свой слыхавы апарат,
хор камсамолак распаленых песню вядзе,
і з братнімі хлебам-соллю, паважнасць надаўшы хадзе,
з бантамі на вышыванцы крочыць калабарант.

е.

Вы дбалі пра горад, засеяўшы ўлёткамі брук,
і марадзёр налякана асаджваў назад;
распачалі асвету і, не шкадуючы рук,
ізноў сабралі ў заасадзе савецкіх баброў і гадзюк,
хоць нафіг каму ён патрэбны быў, гэты ваш заасад.

ё.

І піянеры-юннаты, што вершам вам лашчылі слых,
і настаўніца мовы, што давала вам кут, —
па вашым сыходзе яны атрымаюць за ўсіх,
славянская псіхадэліка, дзеці: не псіх,
але падсвядома імкнешся да страшных пакут.

ж.

І можна нават не знаць, як мінае слава зямлі,
але, калі шчыра, мальцы, без сопляў і без абраз,
ладна ўся гэта няпруха, ладна туга, адылі
няўжо вы не бачылі самі, няўжо зразумець не маглі,
што райх ваш — фата-маргана і фюрэр ваш — підарас?

з.

Скажыце натхнёнаму хлопцу, што дыхаў на шкло
ў сцюдзёнай рэдакцыі й гергет ваш меў увушшу,
калі пакідалі вы горад, яго ваду і цяпло,
скажыце, пакутай сумлення хоць раз пасля апякло
нямецка-фашысцкую чэрствую вашу душу?

і.

Аднак не вярнуць ужо ладу гэтаму гораду
і не пазбыцца агіды да ўсіх, хто яго здаваў,
таму і я лепш падохну ці проста так упаду
на плошчу яго свабоды — спустошаную руду,
але не зракуся карэння яго наркатычных траў.

й.

Адно нерухомае неба, неба глядзіць згары
лінзамі Багародзіцы ў кожны аконны праём.
Мякне цукерка ў кішэні — рукой не бяры,
дзеляць план у настаўніцкай, дождж залівае двары,
гелікоптэр удалеч вандроўным ляціць жураўлём.

*2000*

# Швейная машынка праўды

*чорна-белы верш*

Я лейтэнант Альда Рэйн і я збіраю спецатрад.
Мне трэба восем байцоў, восем амерыканскіх габрэяў (...)
Нас закінуць у Францыю як цывільных.
Мы распачнем там няхілую партызанку.
Мы будзем рабіць толькі адну рэч.
І гэтая рэч — мачыць нацыстаў. (...)
Кожны суччын сын у нацысцкай форме здохне (...)
Немцаў будзе ванітаваць ад нас.
Немцы будуць гаварыць пра нас.
Немцы будуць баяцца нас.(...)
Калі вы са мной, кожны з вас вінны мне асабіста.
Кожны з вас прынясе мне па сотні нацысцкіх скальпаў.
Дайце мне іх.
Ты, ты і ты
здыміце для мяне па сотні скальпаў з бошак нацыстаў,
або здохніце ў працэсе.

***Inglourious Basterds* by Quenteen Tarantino**

марка швейнай машынкі, якую
мне ў дзяцінстве купілі бацькі
ў пенсіянеркі доры ёсіфаўны,
ў сталінцы над нацбанкам, —
VERITAS.

ведаеце, што гэта значыць
у перакладзе з лаціны, сукі?
VERITAS — значыць праўда
таму — падстаўляйце рукі

пад швейную машынку праўды
з нажным прывадам крыўды

- - - - - - - - - - - - - - - - - - - - - -

я вельмі добра помню той дзень
калі мне купілі машынку

дора ёсіфаўна была міравой жанчынай
дора ёсіфаўна пакавала валізы ў ізраіль
дора ёсіфаўна распрадавала мэблю
дора ёсіфаўна гладзіла мяне па галоўцы
дора ёсіфаўна расказвала, як выжыла ў гета
дора ёсіфаўна вучыла
як размаўляць з настаўніцай працы
калі тая даводзіць
што хвартух крыва пашыты
дора ёсіфаўна бонусам да машынкі
падарыла трос
ад трафейнага месершміта
казала, VERITAS, канешне, фірмА,
ды ці мала што
на, бяры,

харошы

нямецкі

прыдасца, калі крыўда падступіць да горла

прайшло васямнаццаць год
фірмовы трос
пе-
ра-
цёр-
ла

мон шэр барбароса
час трафейнага троса

- - - - - - - - - - - - - - - - - - - - -

згодна з інструкцыяй
праўду гавораць так

махавіком падымаюць голку ўверх
белую нітку працягваюць праз пятлю a
між шайбамі b
і спружыну нітканацягвальніка c
пад гачак нітканапрамляльніка d
а затым наверх праз вушка
сустаўнага ніткавага рычага e
ўніз праз нітканапрамляльны канал
да ніткавае пятлі ў голкавым зацiску f
і нарэшце злева направа праз гольнае вушка

чорную нітку намотваюць на шпульку
шпульку ўстаўляюць у чаўнок
чаўнок устаўляюць у чаўнок-дзяржальна
махавіком апускаюць голку ўніз
махавіком падымаюць голку ўверх
разам з чорнай ніткай

згодна з інструкцыяй
праўда гатовая да выкарыстання

- - - - - - - - - - - - - - - - - - - - -

праўда

праўда

праўда —

тым, хто цэліў у малако,
а трапіў у мяне выпадкова

праўда

праўда

праўда —

тым, хто зачапіў мой мікра- і макракосм
(і ў прыватнасці в. рыжкова)

праўдапраўдапраўдапраўдапраўдапраўдапраўдапраўдапраў
дапраўдапраўдапраўдапраўда —

агідная, як агітка

праўдапраўдапраўдапраўдапраўдапраўдапраўдапраўдапраў
дапраўдапраўдапраўдапраўда —

пакуль не скончыцца нітка

- - - - - - - - - - - - - - - - - - - - -

прапусцім нюансы адрознення дабра ад зла
тым болей, што гэтыя слабакі
не ходзяць інакш, як па двое,

а праўда заўжды адна
і яна —
стаіць у маім пакоі

праўда — яна як парыж, заўсёды з табою
праўда, яна як чорны і белы берлін — абое-рабое

праўда — яна як мадрыд і бясхмарнае неба над галавою
праўда заганяецца ў цела з крывёю
як у бурацiна цвікі,
як у спелы кавун шыпаваныя чаравікі,
як голка швейнай машынкі ў тое, што стане
вялікай белай начнушкай
маленькай чорнай сукенкай
маскарадным строем пінгвіна
тым, што я нарысую

мудрасць за тым, хто мерае,
мужнасць за тым, хто кроіць
цнотны, хто фастрыгуе

праўда за тым, хто стабнуе
нітуе
адмеранае
скроенае
сфастрыгаванае
ў адно цэлае

знізу па вашых пальцах пройдзе чорная нітка
зверху — белая

## Арафатка-пярэварацень

*чорна-белы верш-ii*

Я купіла сабе арафатку
ў гандлёвым цэнтры «Сталіца».
Арафатка пашытая модным у гэтым сезоне чынам:
адзін ейны бок вельмі светлы,
другі — абсалютна цёмны,
і, павязваючы арафатку,
важна не памыліцца,
на якім баку гэтай шмоткі твая айчына.

На адным баку рассыпаўся белы пясок,
і плацінавыя вярблюды ходзяць па тым пяску,
і бедуіны нясуць нам фалафель, кебаб і сок,
і белы лагодны соус яны нясуць.

На другім баку разлілася тлустая нафта,
яна люляе парэшткі нейкага эйркрафта,
і вярблюды там ходзяць таксама, але чорныя,
а яшчэ там Садам, Усама і цемра пячорная.

Абраць светлы бок — натуральна і высакародна,
і як бы няма й гаворкі пра выбар тут.
Але нешта са мной не так, мусі, нейкі маральны я ўрод: на
шыі маёй заўжды чорна-белы жгут.

Ну і галоўны нюанс: арафатка тая
зробленая ў Кітаі.

# Як правільна ездзіць у Vilnius

Я ўмею правільна ездзіць у Vilnius.

прачнуцца рана
пачысціць зубы
узяць таксоўку
выйсці на перон
палаяцца з правадніцай
увайсці ў вагон
залезці наверх
праспаць Маладэчна
праспаць Залессе
праспаць Смургоні
праспаць Ашмяну
прачнуцца адно ў Гудагаі
палаяцца з правадніцай

Некаторыя кажуць, што ў Vilnius ездзяць не так,
але я ўмею ездзіць у Vilnius абсалютна правільна.

памежніку, што выпускае,
сказаць, што не быў на Плошчы,
памежніку, што ўпускае,
сказаць, што купіў страхоўку
выйсці з вагону
палаяцца з правадніцай

Што-што, а ездзіць у Vilnius правільна
я ўмею.

памяняць у Parex
сесці ў маршрутку
купіць у Akropolis
сесці ў маршрутку
выйсці на Gedimino
паесці ў Macdonald's
пайсці на Pilies
замовіць krupnikas
замовіць alus
сказаць ačiū

Я ўмею ездзіць у Vilnius
абсалютна правільна.

пайсці на Užupis
замовіць alus
замовіць krupnikas
сказаць ačiū

І адно пад канец
прайсці паўз Вострую браму,
хоць гэта і не зусім
па дарозе на stotis.

# Вершаваны каляндар[1]

I

Бацькі-вычварэнцы назвалі яе Ізольда.
Ізольда Студзень.
Яна расла непрыгожай дзяўчынкай:
гэта яе апісалі ў вершы пра агонь у сасудзе.
У школе яе дражнілі то Халадцом,
то Селядцом-пад-шубай.
Ва ўніверы яна вывучала адрозненні
серба-лужычаў ад кашубаў.
У асперы да яе пасватаўся Міша Гелерт —
гэткае ж, як і яна, шкадобішча.
Яна пабралася з ім,
пакінуўшы дзявочае прозвішча.

II

Быў Віцька Люты
мой першы пацан:
у каханні мне кляўся,
у жонкі ўзяць абяцаў.
Але калі Віцька
патрапіў на суткі
яму пайку прыносілі
нейкія сучкі.
Вось што скажу я табе,
Віцька Люты:
выпі атруты!

[1] Героі некаторых вершаў сапраўды існуюць. Але ўсе дэталі, звязаныя з імі, выдуманыя.

## III—IV

Сакавік і Красавік
сок вазілі й краскі
ад Чырвонага Сяла
да Бялай Падляскі.
Сакавік і Красавік
працавалі спора,
і цяпер у нас вясна
ад мора да мора.

## V

Пісьменнік Кастусь Травень
прыходзіць на чужыя
літаратурныя вечары,
і прадае
ў фае свае кнігі.
Іх асноўная думка ў тым,
што, нягледзячы на маразы,
трэба дажыць да адлігі.
А пасля ён ідзе дамоў,
складае ў стосік асобнікі,
што яшчэ мае,
уключае таршэр і сядае чытаць
Карла Фрыдрыха Мая.

## VI

«Мяне завуць Чэрвень», —
напісана было
на яго майцы адпаведнага колеру:
сёлета яго выдавецтва паставіла на Памука.
А яго паставіла ля павільёна
ў рэкламных мэтах —
таксама Муку навука.
Ён стаяў і ўпіхваў улёткі наведнікам
са спрытам сапраўднага міма.
А яна шукала раманы Лесінг,
яна прайшла міма.

## VII

Бард Святаслаў Ліпень
пасварыўся са Звязам зямлянаў Венеры:
ён цяпер там, як ён з’едліва каламбурыць,
«персона нон гранта».
Ён часта прыносіць гітару
на старыя венерычныя могілкі,
на магілкі першых прэзідэнтаў Зямлі,
і спявае свой хіт
«Не размаўляй на мове
марсіянскага акупанта».
Яго спеў маркотны;
яго даўгія кудлатыя валасы
набягаюць на лысіну, нібы хвалі
(першая, другая, трэцяя)
тых, што таксама эмігравалі.

## VIII

Ксеня Аўгуст паходзіць
з Усходняй Прусіі,
але вучыцца на арганістку
у Беларусі,
што яе вельмі торкае,
хоць не мусіла б.
І вельмі часта яна дапускае пры піве:
калі талент яе
ўзрунее на нашай ніве,
на афішы яна напіша: «Аўгуста Жнівень».

## IX

Вера была маленькай: па законах, прынятых у Штатах, —
непаўналетак.
Яе працай было, каб мужчыны ў чатах праглі яе яйцаклетак.
Яна хлусіла: «Я сюды на пяць сек, хутка вернецца мама», —
паралельна ў вакенцах чужых пакрысе падгружаліся відэа
і рэклама.
Была яна, як усе, — вельмі юная славянская дама.

Што яна не з банальных фей першымі прасеклі, здаецца, копты.
Флірт у вірце яна трымала ў графе духоўнага вопыту.
Прыручыла іх — і падкінула лёсу пад дзверы,
і кожны цяпер, нібы псіх, лез у нэт і шукаў сваёй Веры.
Яны любілі яе — такую адну на ўсіх — спадзяваліся на яе;
яны ёй верылі.

І ўсё было файна, покуль была вясна.
Восенню нечаканна прыйшла навіна:

>>>Вера Сень не стане Вераю Рыч ці Вераю Абу-Дабі
>>>Вера Сень сустрэне кастрычнік зусім не ў Westminster Abbey.
>>>Вера Сень ніколі не плясне далонямі па Каабе.

*(— Shit! —* крычаць у Тэхасе. *— Shit! Valaam — were the hell is it?)*

>>>Вера Сень выдаляе акаўнт і выдаляецца ў скіт.

Вера Сень не пабачыць краіны сваёй у верасе, сонцам сагрэтай,
праз вокны белавіі — а стаіць верасень, бабіна лета...
Вера Сень аддаецца царкве, яна не сядзе ў авіялайнер.
Дзесяць вечара па Маскве, яна апошні раз у анлайне.
Канадцы сядзяць у жаху — праз гадзіну цягнік.
Туркі скайпу глядзяць у шоку — зялёным міргае нік.
Ён праміргаў яшчэ троху — і назаўсёды знік.

X-XI

Верш, падпісаны: К. Стрычнік,
і верш, падпісаны: Л. Істапад, —
вось і ўсё, што ад яго засталося.
К. Стрычнік напісаў верш пра Леніна,
Л. Істапад — пра восень.
Апошняя думка прыйшла да яго,
калі стала ўжо не балюча:
«У калысцы я быў адзін,
чаму мы ляжым тут кучай?..»
Бралі яго,
як нацдэма,
як і іншых тады.

Памаліся за яго таксама,
калі Дзяды.

## XII

Ён і сам не помніць, хто і калі надзяліў
яго гэтай халоднай мянушкай — Снежань.
Але факт: нікога не было на зямлі
каму б ён душу разнасцежыў.
Дваццаць пятага ён надзіраўся бязбожна,
трыццаць першага клаўся спаць а дзясятай
і казаў нам: «*Хлапцы й дзяўчаты,*
*усцацца можна*
*ад таго, як вы бачыце свята*».
Але гэтак жа, як у фундацыі
быць павінны фундук,
у шафёра — шафа,
у кавы — кавун,
аднойчы яна працягнула руку і сказала: «*Сняжана*».
І вось яны ўжо вырашаюць,
каму на Раство
беспрычынным смехам тлуміць галаву —
пражанам ці парыжанам.

**Іосіф Бродскі**
*з расійскай*

## Калядная зорка

Халоднай парою ў мясцовасці, звыклай хутчэй да пары
спякотнае, схільнай да плоскасці болей, чым да гары,
Немаўля ў свет прыйшло, Збаўца свету ад ночы самой;
Мяло, як толькі ў пустэльні можа месці зімой.
Для Яго ўсё было велізарным: грудзі матчыны, жоўты шар
каганца, тры цары — Мельхіёр, Бальтазар, Каспар;
гасцінцы іх, дбайна ўцягнутыя ў стойла вала.
Ён быў усяго толькі кропкай. І кропкаю зорка была.
Уважліва, не міргаючы, цераз густую сінь
на Таго, хто ляжаў у яслях, з найвышэйшых вышынь,
з іншага краю Сусвету, з таго канца,
зорка глядзела ў пячору. І гэта быў позірк Айца.

*24 снежня 1987*

# Сэрца святога Сільвестра

Ён прыцягне з гарышча пластыкавых
Мароза,
Снягурку
і living розна шкляное стар'ё.
Я захныкаю: «Навошта, Сільва?»
Ён адкажа: «Дзевушка, ё-маё!
Ялінка — эта красіва!

Новы год як-ніяк,
а ў цябе наперадзе яшчэ і Раства...»
Адзенецца,
спусціцца,
купіць у нейкага дзеда
ялінку ля ўніверсама —
і ўжо дома павесіць туды сваё сэрца
і сэрца І... ну, таварыша свайго аднаго.
І, няхай нябачна, маё там вісіць таксама.

# Цёця Валя

*

Сёння славіцца Дзень святога...
Ты ніяк не згадаеш, якога.

Можа Марціна?
Значыць, трэба смажыць гуся.

Можа, Губерта?
Значыць, нельга застрэліць лася
(ну, ці іншага звера — не ў рыфму, але з рагамі).

Ераніма мо? —
Біблію перакладзі, каб гасцям было лепей відно.

Мо Сільвестра? —
столік журнальны шпурні праз акно,
каб не блытаўся пад тваімі даўгімі нагамі.

* *

Ах, за жыццё маладое ці мала
ты насвяткавала?

Помніш, быў Мікалай,
ліў віно цераз край,
зводзіў бровы й казаў: «Варыцца!» —
і чорт леваруч
падаваў цынамон,
і анёл праваруч —
карыцу?

А помніш, у амбасаду Швецыі
запрашала Люцыя,
частавала печывам?

А помніш як Себасцьян
забягаў у цір
і ставаў пад цэль
у чаканні нечага?

Ці як усе святыя
закупіліся — і купацца
на фазэнду Яна,
і быў чэрвень,
была рака
і была паляна,

Эльм расклаў агонь,
Кацярына прынесла кола,
якім яе катавалі...

Але ўсё. На павестцы люты,
віншуй цёцю Валю.

* * *

Што значыць «народзіны ўлетку»?
Чаго ж яе так называлі?
Купляй паштоўку і кветку —

ВІНШУЙ ЦЁЦЮ ВАЛЮ!

Шэфа на працы падмазалі,
з хлопцам дома пабалявалі,
цяпер — прамы абавязак:
віншуй цёцю Валю!

Падары ёй сэрца — махровае чырвонае сэрца,
раскажы пра вакацыі ў Рыме, пра смерць у Венецыі...
Ах як пекна там зараз — у Марка на карнавале!..
Але ты ў Беларусі,
ТАМУ —
віншуй цёцю Валю!

Павіншуй цёцю Валю, кепская ты пляменніца!
Павіншуй цёцю Валю, а піша яшчэ!!! — пісьменніца!

Заўтра Стрэчанне.
у Сімяона пад лыжачкай ные — пігулкі стары бярэ.
Павіншуй цёцю Валю, няўдзячная, чэрствая дрэнь.

## Happy Easter

Ва ўніверсаме побач з маім домам
атмасфера, сярэдняя між Гамораю і Садомам.

Размёўшы партыю, выпечаную ўначы,
пільнуе народ велікодныя кулічы.

Сціжма людзей незлічоная, пераважна кабеты,
нервуецца і крычыць у пякарню прыблізна гэтак:

*— Калі ўжо вынесуць пасхі, маць вашу іціць?!*
*— Я вам «січас заквашу!» — народу свяціць!*

*— Я з рынку прыбегла, суседка пільнуе рэчы!*
*— Муж пільнуе дзяцей! Пашкадуйце малечу!*

*— Цешча ля цэрквы зранку трымае чаргу!*
*Ганіце маю абаранку — і я бягу!*

*— Дзве першыя — нам! Мы першыя занялі!*
*— Я ветэранка вайны, я брала Берлін!*

Цяжарныя млеюць, варта паклікаць лекара,
але сціжма блытае і патрабуе пекара.

Пекар выходзіць з пякарні рашучы і хмуры,
пекар выкладвае на прылавак мускулатуру:

*— Я ВАМ ШОБЛЯ, СТАРУКІ??? ГЭТА ВАМ ШОБЛЯ, ПЕЧЫВА???*
*СТЫНЕ ГЛАЗУР, ПРАВАСЛАЎНЫЯ! ЧАКАЙЦЕ ДА ВЕЧАРА!*

О, раны Хрыстовы! О, сонца святой зямлі...
*— Вас Бог пакарае, сытыя кабялі!!!*

*— Не па-хрысціянску гэта! Вы ўсе жыды!*
*— ШО ТЫ ТАМ ВЯКНУЎ?! АНУБЛЯ, ІДЗІ СЮДЫ!*

*— Гаўно твае пасхі! Тры разынкі на чан!*
*— МУЖЫК, ТЫ НАРВАЎСЯ, АНУ ПАДСТАЎЛЯЙ КАЧАН!*

*— Магазінныя морды!*
*— Сраныя кулінары!*
*— КНІГА СКАРГАЎ І ПРАПАНОВАЎ — У КАФЭ-БАРЫ!*

*— Распяць яго!..*
Пекар яўна трапіў у нерат:
сціжма паволі пасоўваецца наперад.

Усіх вядзе ветэранка, сівыя буклі — вярбой.
Ва ўніверсаме распачынаецца бой…

…А мы з бабуляй у хаце, мы расчынілі дрожджы.
Бабуля сказала, муку таксама трэба, але папожжы.

**Канстанты Ільдэфанс Галчынскі**
*з польскай*

## Вялікдзень Ёгана Себасцьяна Баха

Хатнія з’ехалі ў Хаген.
Я адзін у вялізарным доме.
У галерэях чуваць мае крокі.

Вельмі смяшыць мяне гэтая ўся пазалота
і пеліканы, разблёныя, як ад вялікай ляноты,
І гэтыя нізкія шэрыя з поўдня аблокі.

Я люблю, каб хмура, каб хмараў па небе смугі,
нібы кастэлі, нібы мае паліфонныя фугі!

Ах, што за раскоша — блукаць анфіладай даўгою
Ейнае Мосці Музыкі верным слугою!
Ад свечак у лямпах бы ў восеньскім лесе чырвона.

А сёння Вялікдзень. Звон прамаўляе да звона.
Не, не хварэе сэрца маё тугою!

У старых шуфлядах старыя ноты,
у кніжках — гербарыяў дотык шурпаты.
О, як прыемна гартаць старыя паперы!
О вы, велікодных гадзін залатыя хімеры,
о вы, залатыя калоны натхнення майго, о кантаты!

Апрануты ў аксаміт зялёны,
праз пакоі, галерэі і салоны
тупачу я, грукачу хадою;

столькі, яшчэ столькі часу да святочнай ночы,
каб спяваць і буркатаць, брысці і крочыць,
каб цячы зачараванаю вадою!

Партрэты вітаюць мяне ў гэтых залах. Іх цёмных твараў алей
яшчэ больш цямнее, калі адыходжу далей.

Мяне клічуць майстрам. Мне смешна — чаго ўжо нямашака!
Маўляў, у свае кантаты замкнуў я нябёсы.
Шкада, што не ўсім тут дразда майго чуць давялося.
Ах, як спявае, як цвіркае гэтая пташка!
Яму я надзвычай удзячны, але і старых рэкаў водам,
і хмурым аблокам, і ўлонню твайму, Прырода!

Зірніце направа, на сінія гіяцынты,
налева — на гэтыя крэслы чорнага дрэва,
на гэтыя звонкія раз у гадзіну куранты,
на гэтую клетку з папугамі, поўную спеваў,
на гэтыя хмары, зіхоткія бы адаманты,
адданыя волі прымхлівай паўднёвых павеваў.
Зірніце. Так, гэта мой дом. Ён таксама стане
добраю згадкай па мне, Ёган-Себасцьяне.

Кажуць, стары, нібыта рака я,
і час з маіх рук ужо шпарка сцякае.
Іх праўда — я марнатраўца, прычым адмысловы.
Ды гэта лухта ўсё! Парваць маіх струнаў не ўдасца!
А ёсць жа яшчэ партытуры кантат маіх, трасца!
Не час мне — я гэтаму часу стаўлю падковы!

Хутка вернуцца хатнія й зладзім бяседу.
Дочкам — абы да люстра, не трэба й абеду.
Хмара гасцей збярэцца, і будуць танцы.
Госці вып'юць добра, наядуцца сытна,
пастушок з габелену грымне на цытры.
А пасля прыйдзе вечар. Я знікну ў альтанцы.

Бо лепшай за спеў маёй Ваймарскай скрыпкі звонкі,
за нізкі пярлінаў, што мару купіць для жонкі,
за санаты маіх сыноў, за лятункі і ўсё такое
ёсць вось гэтая запамарочная хваля спакою,
ўласна зараз, калі, абаперышся на парэнчы,
распускаюся ў гэтай шалёнай дзівоснай пустэчы
ВЯСНОВАГА ЗОРНАГА НЕБА.

*1950*

# Верш сярэдзіны лета

> Яшчэ адным заняткам было раскладанне святочных вогнішчаў. Збіраць матэрыял пачыналі адразу пасля Новага года, калі з дамоў выкідалі ялінкі. Усё паселішча навадняласся раптам малымі, якія цягнулі на сваіх санках касматыя яловыя лапкі. Асноўная гонка ўзбраенняў ішла паміж Паскаянкаю ды Страндвэгенам: абодва мікрараёны прылягалі да ракі, дзе можна было паліць вогнішчы хоць да нябёсаў. У гэтым і была сутнасць спаборніцтва — раскласці найвялікшае вогнішча.
>
> **Мікаэль Ніемі, «Папулярная музыка з Вітулы».**

Жыхары вёсак на поўначы Швецыі
адказна падыходзяць да свята
сярэдзіны лета.
Галоўнае, лічаць яны,
каб тваё вогнішча
было вышэйшым за ўсё суседскія,
каб яно было самым высокім вогнішчам у акрузе.
Дзеля гэтага сцягваецца ўсё, што гарыць,
і складуецца штабялямі на лузе.

Калі з мальцамі поўначы Швецыі
меў бы магчымасць пацерці
сусед маёй бабці
з поўначы Беларусі,
адзін такі Мішка,
ён бы мог даць ім шмат карысных парадаў
што да прадмета:

*«Аснова кастра — пакрышкі, —*
казаў бы Мішка, сплёўваючы пад ногі
дажаваную скурку ад сала, —
*запомніце, рэбза, пакрышак*
*ніколі не бывае замала.*
*Чым болей пакрышак,*
*тым кручы пройдзе Купала.*

*Чым болей пакрышак,*
*тым яно больш правільна,*
*з пакрышкамі твой касцёр выглядывае рэальна.*

*У Даманаве кажуць пакрышак*
*мусіць быць па адной на мальца,*
*тады дзеўкі будуць даваць увесь год,*
*але мы ў Зарэччы ў такую чухню не верым —*
*у нас не такая срака — некаторыя вучацца ва ўніверы.*

*Купалу святкуюць так:*
*пакрышкі складаюць горкай,*
*гумавым мурашоўнікам*
*прыўкрасным антрацытавым тортам,*
*пасля дадаецца разынка — змочаная бензінам газета.*
*Дзе ўзяць многа пакрышак? Усе сродкі пасуюць на гэта.*
*Напрыклад, гады два таму я прабіў усе восем колаў*
*у дзядзькавым трактары.*
*Дзядзька быў змушаны выкінуць пакрышкі ў канаву.*
*Ох, як ён мацюкаўся, дазнаўшыся, —*
*зламаў мне рабро і нагу табурэтам…*
*Але я атвячаю — эта была вышшае лета!»*

Гэтак сказаў бы Мішка
мальцам з поўначы Швецыі,
але цёркам такім
не наканавана адбыцца,
не капціць
пакрышкам ад Volvo
нізкае шведскае неба,

хоць асабіста я адчуваю —
у мальцаў поўначы Швецыі
ў досведзе гэткім
існуе патрэба.

Мішка не ўмее гаварыць па-англійску,
ані тым больш па-шведску,
ані нават па-фінску,
і калі б ён сустрэўся з мальцамі
поўначы Швецыі,
яны б, мусіць, пабіліся,
а пасля набухаліся,
але ўсё гэта моўчкі,
ці адчайна жэстыкулюючы,
нат не падазраючы,
што маюць многа
агульных тэмаў.

Таму сёння,
з нагоды сканчэння летняе сесіі
напярэдадні свята летняга сонцастаяння,
калі вы,
уладныя людзі маёй краіны,
думаеце, як зрабіць
жыццё нашае
яшчэ лепшым
(бо вы думаеце пра гэта заўсёды),
я заклікаю вас:

дзеля паразумення народаў,
дзеля гармоніі Боскай,
вучыце сяло,
засылайце ін’яз у вёскі!

## Belarus — England, Варшава — Мінск

Заўзятар Англіі,
жыхар Ланкастэра
канстэбль Джон Мор
ляжыць на падлозе
ў скрайнім купэ вагона
і ўдае, што памёр.
Сябрукі ў купэ,
падабралі ногі,
рагочуць шчыра,
паліваюць бірам,
адна з паліц абрыгана —
гуляюць у Фінегана.

Другая ночы.
Заходзіць рабочы.
Няголены, праставаты,
пасміхаецца вінавата,
зыр на брытанцаў, зыр
і — хопа! Выцягвае штыр
у Джона спаміж ног.
«*ФОК!* — пужаецца Джон. — *ФОК!*
(у перакладзе з ангельскай — «фак»)
*ЧАМУ ТАК???*»

Пне вочы на дзірку,
у якой пустата,
звіваецца на падлозе
малпаю без хрыбта.
У істэрыцы
суне пальцы
ў чэрань дэпо,
у холад дэпо:
«*Фокін кантры,
куды мы прыехалі?
Дзе мая мапа?*»
Чапляецца за ножку
стала вагоннага,
нібы Кітай за Тыбет,
і толькі калі рабочы
штыр заганяе на месца,
аціхае, як малпа,
якой вярнулі хрыбет.

## Парны тэніс (Мірны-хоп)

І ўвесь сённяшні вечар з вамі на корце — Макс Мірны.
Рукі ягоныя — золата, пот яго — ладан і смірна.

Прэс ягоны — тымпан, ногі яго — кіпарысы.
Водар навокал — сандал, што з чрэслаў ягоных выпарыўся.

Ґрудзі ягоныя — ўзвышшы гарналыжнага комплексу «Сілічы».
У першых радах манежу — людзі, якіх ён вылечыў,

Вогнішчы з іхных мыліцаў гараць у славу яму.
Позірк ягоны ваду зараджае і даспявае хурму.

Падача яго — кубаметр газу ў беларускія вёскі...
...І семдзесят пяць адсоткаў нябесных анёлаў пяюць песні боскія,

І хірургі вяртаюць хабар, і бясплатна возяць таксісты,
І школьнікі на экскурсіях шыхтуюцца парамі, як тэнісісты,

І школьнікі са скаліёзам перастаюць сутуліцца,
І Дэвіс п’е піва з кубка проста на вуліцы,

І ўсе міс краіны спружыняць спінамі, нібы пантэры,
І маладыя сем’і знаходзяць у чыпсах крэдыт на кватэры,
І бэтэ транслюе ўручэнне Нобеля ў простым этэры,
І спадарожнікі не выбухаюць больш у стратасферы,

Калі ён выходзіць на хуткае пакрыццё,
Імгненны, як смерць, прыўкраснейшы за жыццё.

# Нарадзі прэзідэнта

Ты кажаш, голкай цэнзуры зашыты твой рот
і ванітоўней, чым сёння, ужо не будзе.
А па мне, усё ў тваіх руках, пакладзеных на жывот:
нарадзі прэзідэнта, якога хочаш, — сабе і людзям.

Ты кажаш, Народ і Мова заняпалі дашчэнту.
Дык за чым затрымка? Нарадзі прэзідэнта.

Скажы сабе: «Як спадарыні Лінкальн і Кенэдзі», —
і нарадзі.

І ён вырасце й зможа ўсё зло на свеце змагчы:
Папа Рымскі будзе сядзець ля яго злева,
Голуб Міру будзе сядзець у яго на плячы,
а ля ног яго — Брытанская каралева, —

бо вы малайцом, мамаша, усё зрабілі, як трэба,
і цяпер усё будзе іменем Айца і Сына,
і арол дэмакратыі будзе лунаць над тваёй краінай,
хоць, магчыма, там будзе банальнае мірнае неба.

І ты — прычына таго, што здохла нешта вялікае ў лесе —
прымаючы ў пасляродавым журналістаў маленькімі групкамі,
адмовішся ад вілы ў Ніцы й на радасць кансерватыўнай прэсе
аддасі перавагу хутару недзе пад Крупкамі.

Ты пасадзіш ля хаты півоні, флоксы і мак.
Ён штурхаецца ножкай — гэта харошы знак.

Адчуваеш — ва ўлонні віруе плацэнта?
Нарадзі прэзідэнта.

# Expobel mon amour

1.

А на выездзе з горада цемра была,
быў на выездзе з гораду корак,
і ранкі рубінавага святла
душыліся на выездзе з горада.
Як заўсёды ў пятніцу, дзеці сяла
выязджалі з горада ў морак.
У заторы было немагчыма прайсці
між «фольксвагенаў», «шкодаў» і «бэхаў»;
у той вечар — і ўвогуле па жыцці —
ў гэты горад ніхто не ўехаў.

2.

На каўчэг бы іх не пусцілі, гэтую пару.
Яна пілавала яго, заглушаючы зліву й трафік:
— *Гэты хрэн зачыняе вокны, а ўсім — пофіг!*
*Скажы яму, ты ж мужчына, не стой, як пуфік!*
*Грэбаны МАЗ, мы тут задыхнемся нафіг!*

І праўда: адзін з пасажыраў (а дождж ужо ліў сцяною)
задрайваў аўтобусу люкі, нібы зашываў раны.
Некаторым з нас ён нагадаў Ноя
тым, што быў п’яны.

3.

Купіла сабе шлёпкі сінія,
актуальныя ў гэтым годзе.
О «Экспабел»! Сэрца Сірыі!
О слонікі твае на заходзе!

Дзякуй, што пасылаеш мне
бусы гэтыя і штаны,
але памятацьму да скону
калыску сваю — Жданы,
соннае прадмесце Сайгону.

4.

Тэма патрыятызму раскрытая на сто адсоткаў
у дыялогу: «*Ацтойны раён*». — «*Я жыву там*».
Гэта няблізкі свет, бо сюды не даходзіць сотка,
затое паветра апоўначы пахне кунжутам,

бо хлебазавод №2 у тваім двары
усяночна дурманіць горад духмяным кадзілам.
Што б ні напаткала цябе — канец свету ці выбары,
мама адчыніць і запытаецца, дзе ты хадзіла.

**Дылан Томас**
*з англійскай*

## Вушы на вежах чуюць

Вушы на вежах чуюць —
Грукаюць рукі ў дзверы,
Вочы з байніцаў бачаць —
Пальцы кранаюць клямку.
Мне адамкнуць ці застацца
Нябачным воку чужынца
Самому да дня свайго скону
Сярод гэтых белых муроў?
Рукі, што вы несяце: вінаград ці атруту?

Па-за гэтаю выспай —
Тонкай затокай плоці
Вакол узбярэжжа косці —
Зямля, дзе бязгучныя долы,
Зямля, дзе бяздумныя горы.
Ні птах, ні лятучая рыба
Не кранаюць паветра над выспай.

Вочы на выспе чуюць —
Агнём праносіцца вецер,
Вочы на выспе бачаць —
Караблі падымаюць катвігі.
Бегчы мне за караблямі
Так, што ў кудзерах вецер,
Ці застацца да дня свайго скону,
Не ўпускаючы ў дом мараплаўца?
Трумы, што вы несяце: вінаград ці атруту?

Грукаюць рукі ў дзверы,
Караблі падымаюць катвігі,
Зліва лупіць пясок і гальку.
Мне сюды запрасіць чужынца,
Мне ў дом упусціць мараплаўца,
Ці застацца да дня свайго скону?

Незнаёмыя рукі, карабельныя трумы,
Што вы несяце: вінаград ці атруту?

*1936*

## Практычны дапаможнік па танцах на стале

*верш на свабоду*

*Аксане Васькіў*

Галоўнае — хадзіць па танцполе, нібы носіш чырвоны сцяг, —
і тады эгаістычныя геі падпусцяць да шоста.
Калі шост надакучыў, стол — заканамерны працяг.
Танчыць на стале вельмі проста.

Правер стол:
пераканайся,
што ён дастаткова хісткі для тваіх мэтаў.
(Бяспечней, канешне, каб стол быў трывалым, але
ты можаш танчыць толькі на хісткім стале,

бо хісткае — твая карма,
твой стрэмны кон,
няясная ніва,
хімерны Салярыс,
маргінальная ultima Thule).

Заплюшчы вочы,
ранняя восень,
ты на Браславах,
час збіраць журавіны,
пад нагамі дзёран,
пад дзёрнам тоны вязі,
вікінгі ў драках
ляжаць у ёй штабялямі.
Хрыпы кнігаўкі.
Званы Іказні.
Посвіст катэра рыбнагляду.
Ты дома.

Ты вольны.
Ты мусіш.
Расплюшчы вочы.
Расслаб калені.
Раскінь рукі.
Рассунь падэшвамі пілсы ды вайсы.
Адрывайся.

Танчы раз-два —
пад табой дрыгва.

Танчы нон-стоп —
гэта топь.

Калі душа прагне —
тусі на багне.

Не шкадуй мэблі
на хліпкай грэблі.

Скачы — опа-опа —
на лёгкіх Еўропы.

То брэйк, то марш —
shake the marsh.

Гуляй, галота, —
трасі балота.

Усе вочы клуба скіраваныя на цябе,
на гэтым этапе галоўнае — не здацца ахове...
А, зусім забылася: ты танчыш не ў межах РБ —
усё адбываецца ў кансерватыўным Львове.
Фацат у вышыванцы мкне на цябе са спіны,
іншы — з трызубам — падступна заходзіць справа.
(Пароль: «Слава Україні!»
Водгук: «Героям слава!»).

Цябе выстаўляюць з клуба, але — гэта ж Львоў! —
нат не штрафуюць і не здаюць у кутузку.
Пад ліхтаром пара ўкураных галіцкіх львоў
вучыць нейкага каталонца мацюкацца па-руску.
Каталонцы даязджаюць да Львова —
гэта клёва,
але
ім не зразумець беларускага танца на хісткім стале.

**Том Уэйтс**
*з амерыканскай*

## Што ён будуе?

Што гэта ён там будуе?
Што за трасцу ён там будуе?
Яму носяць часопісы з пошты
Ён не вітаецца з намі і ўзмахам рукі
Ён хавае ад нас усіх нешта
Ён увесь у сабе і я знаю чаму ён такі
Вы бачылі ён зняў арэлі з дрэва ў двары
Ён не мае дзяцей да яго не ходзяць сябры
Ён не косіць газону сабакі ў яго няма
І ўсе гэтыя бандэролі ён адсылае штодня нездарма
Што гэта ён там будуе
Ў святле перасоўнай лямпы?
Што гэта ён там будуе?
Што заўгодна але не пясочніку і не горку
Што гэта ён там будуе?
За яго дзвярыма грукат стаіць такі
Нібы ён цэлы дзень заганяе ў падлогу цвікі
Я клянуся я чуў ціхі стогн калі падышоў
І я бачу ў ягоным акне святло тэлешоў
У яго ёсць фрыза і варштат паспрачацца магу
І вам не перадаць што сказаў сусед што жыве на рагу
Ён трымае пад мыйніцай яд сярод белага дня
Фармальдэгіду там хопіць каб заваліць каня
Што гэта ён там будуе?
Што за трасцу ён там будуе?
Я чуў ён мае прыбытак ад бізнесу за мяжой
І ў Тэнесі жонку з якой паводзіцца як з чужой
Але што гэта ён там будуе?
Да яго не ходзяць сябры

Ды шмат пошты прыносяць яму
Зуб даю ён ненадоўга трапляў у турму
Я чуў ён стаяў на даху ўчора ўначы
Камусьці лямпай сігналы падаючы
І што гэта за матыў ён увесь час мычыць?
Што гэта ён там будуе?
Што гэта ён там будуе?

Мы маем права знаць

*1999*

# Этыка і псіхалогія сямейнага жыцця

Згвалтаванне, калі вярталася поцемкі з працы, —
віна жанчыны.
Муж, які не сустрэў ля метро, безумоўна, яе пакідае,
бо а раптам пранцы,
бо значыць была прычына,
бо сама нарвалася, бо знойдзецца маладая.

І — апроч пары новых зморшчак — усё гладка,
І — акром чорна-белых кашмараў — усё весялкова,
Толькі зранку нашча пад локаць лепіцца ватка,
І сястра застаецца ночыць нібы выпадкова.

Ну было і сплыло — з кожнаю можа стацца.
І цяпер, як сястра перакновае, трэба старацца
жыць далей,
правярацца зранку нашча на пранцы,
і не думаць пра шэрыя поцемкі пасля працы.

*19 снежня 2010 г.*

# Памылкі першага разу

Маё першае каханне было так даўно,
што я не магу даць на яго спасылку ў інтэрнэцэ.

**Віталь Рыжкоў**

«А на Божым Судзе
ўсім у жопу будзе», —
паўтарай гэта ў голас, калі
тваё першае каханне цябе засудзіць.

Любілі сядзець на трубах ля пачатку КАДу —
і вось вы на цэнтральных вуліцах, па розныя бакі барыкадаў.

Уцякалі з урокаў гуляць па трамвайных рэйках -
а цяпер вы на дыбачках па скіўцы ў розных рэках.

Дзеці Пятра Шміта, салісты канкуруючых хораў, —
а на бацькоўскім лецішчы ўзімку было так хораша!

Так пад чужой кашуляй гарэлі агнём рукі!..
Але чорт узяў і прыдумаў палітычныя рухі.

Не склалася — што ж, merci — і нават beaucoup.
Ці прынцыпова, каб нашы першыя былі на нашым баку?

Ці трэба, каб яны былі з намі,
калі мы зазнаем паразу?

Дзякуй, Суддзя, за памылкі першага разу.

**Тэнесі Уільямс**
*з амерыканскай*

## Плач па молях

Чума нішчыць моляў, молі ў смяротнай знямозе,
іх цельцы, як бронзавы пыл, паўсюль на падлозе.
Ворагі тонкакрыласці ў кожны кут
удыхнулі імглу, найатрутнейшую з атрут.

Плачце па аксамітных молях, яны былі мілыя.
Молі думалі пра мяне думкі свае тонкакрылыя,
супакойваючы неўроз мітуслівых дзён.
А цяпер ад нябачнага зла іх канец відзён.

Я іду паўз цёмныя залі, сэрца маё ў неспакоі:
дзе падступны забойца, шукаю, ў якім пакоі?
Але бачу толькі, як падаюць долу яны —
далікатны попел на фоне нязломнай сцяны.

Цяпер, калі молі ў чуме, і канец іх відзён,
хто ўратуе свяжэй, чым фіранкі, ад летніх дзён,
хто прыйдзе, каб мякка і лёгка суняць мой боль,
калі йду я паўз цёмныя залі, дзе гіне моль?

Маці моляў і чалавекаў, дай сілаў ім, каб змаглі
зноў яны прыйсці ў цяжкое паветра зямлі,
бо так не стае вас, молі, народ тонкакрылы,
у няўмольным свеце, які тоўстаскурасць накрыла.

*1942*

**Сяргій Жадан**
*з украінскай*

## Перавагі акупацыйнага рэжыму

1

Сюды аднойчы вернецца вясна.
З паўднёвых тэрыторыяў айчыны
пацягнуцца шпакі, і вось яна —
свістулечка тутэйшае шпачыны
агучыць фермы і завод нячынны,
і грубы крой вайсковага сукна,
і да халеры іншага лайна.

2

Не адпадае сум ад родных ніў,
галімая галеча ўсё накрыла,
пакуль пясняр пяяў: я адплаціў
народу, я зямлі краса і сіла,
я  светач, я прарок, я бог, я майстра, —
а ў голасе даўно завялі астры.

3

Краіна роспачы ў часы няпрух.
Вось гараджанін дэманструе дух
нязломны; з самабытным артыстызмам
гаворыць ён, ягоных думак рух
буяе нездаровым эратызмам
і побытавым антысемітызмам

4

Стары гусляр прысеў на кургане,
пярсты свае на гусelькі абрынуў,
вяшчаючы, што Ісціна ў труне —
засранцы ў гэту цяжкую часіну
бяссорамна забілі на Краіну,
прыбор паклалі на Патрыярхат
і вокны б'юць Святых Бацькоўскіх Хат.

5

Бядуе горад. Кінуўшы фрызу,
рабочыя ля прахадной на ганку
касяк забілі і бузяць бузу,
разводзяць спірт, заводзяць варшавянку,
пускаюць соплі й мужную слязу
і пакрысе з маёўкі робяць п'янку.

6

Сяло не напаткае гэткі лёс.
Сяло — карэнне Нацыі і воды,
што бурацъ бераг. Моладзевы плёс,
ахвотны лезці ў жыта і авёс,
вярнуўшыся нарэшце да прыроды,
саромныя заводзіць карагоды.

7

Аднак не страціць нашае жыццё
сваіх празрыстых гаваркіх праекцый:
юнак, натхнёнае дзіцё эрэкцый,
вядзе паненку, што вы крычыцё —
бацькі: яны праз стому й забыццё,
займаюцца канспектаваннем лекцый,
зняважыўшы выгоды кантрацэпцый.

8

І толькі золак прыйдзе ў гарады,
юначы твар заззяе потам ды
агеньчыкам зухвалага пагляду.
Дала ці не дала — тае бяды:
людское шчасце простае заўжды —
калоссе пад сярпом і рута ля прысаду.

*2001*

## Галіна Сініла правярае Амерыку

Амерыка як Амерыка —
іншы раз'ём разеткі,
іншая хуткасць вінілу,
але галоўнае —
раз на год
тут бачаць Сінілу.

Сініла сядае ў сабвэй,
выходзіць у Чайнатаўне,
абыходзіць з інспекцыяй
кітайскія ювелірныя крамы,
углядаецца ў ювеліраў,
нібы ў студэнтаў,
якія не здалі Грымельсгаўзена,
гаворыць жарсна, пераканаўча:
вы зробіце мне дыскаўнт
на гэты срэбны пярсцёнак,
на гэтыя пацеркі з яшмы,
на гэты кулон з сердалікам.

Потым Сініла ідзе ў нефармальны квартал,
праверыць хіпі.
Хіпі сядзяць пад пальмамі,
як экзатычныя птахі,
унікальная фаўна
пад аховай мэрыі Сан-Францыска.
Сініла ідзе ў record store,
перабірае барочнымі
пальцамі вінтажныя дыскі
і раптам чуе: «*Мэм!*
*Адзін даляр, мэм!*
*Даляр за верш*
*на любую вашую рыфму!*»

Ускідвае галаву,
бачыць хлопца з шыльдай
«Рыфмую за грошы».

Хлопец працягвае:
*«Мэм!*
*Што такое даляр*
*у параўнанні з Паэзіяй?»*
Сініла смяецца,
працягвае хлопцу даляр
жэстам, які робіць лішнім
чытанне вершаў.

*«Дзякуй,* — дзякуе хлопец, —
*Were are you from?»*—
*«Сямнаццатае стагоддзе».*
*«Супер, a where is it?»*
*«Паміж рэнесансам і класіцызмам».* —
*«Гэта крута, мэм,*
*спадзяюся,*
*you are enjoying yourself*
*у шасцідзясятых»,* —
кажа хлопец,
бярэ даляр
і едзе на акіян,
рэпаваць прыбою.
Сініла зачыняе Амерыку,
як аўдыторыю за сабою.

# Зала гульнявых аўтаматаў

### *Зала гульнявых аўтаматаў. Ранак*

Зала гульнявых аўтаматаў, блаславёная сінекура
для прадпрымальных халопаў, якія не дабеглі да Сечы.
Маладая бармэнка пялёсткамі французскага манікюру
Гладзіць шэфу, што спіць, вусы і нацягвае яму плед на плечы.

Бо яны тут з ночы на гэтым кандыцыянеравым скавышы,
і з імі вось гэтыя двое, ў вачах у якіх пуста.
І, магчыма, зазвычай вочы — люстра душы,
Але сёння для гэтых дваіх экран аўтамату — люстра.

І магчыма, вось гэты ў касусе заб’е бармэнку і возьме касу,
а вось гэты ў джынсусе тут, як і я, выпадкова,
але пакуль асвятляюць ім выхад на запарожскую трасу
дзве цьмяныя лямпы і жабка, сямёрка, падкова.

### *Зала гульнявых аўтаматаў. Вечар*

Зала гульнявых аўтаматаў. За сценамі зліва.
Стральцы, што выбраліся на ўік-энд у Вялікае Княства.
Ганец у чаканні дэпешы ад Курбскага Яну Жахліваму
Азіраецца па баках і ныркамі чуе пастку.

І праўда: «Бандыт!» — лезе нейкі п’яны стралец на стойку.
Аднарукі Іцка камандуе нешта на ідыш дачкам тром.
Ганец адступае ў кут і прымае стойку.
Заля гульнявых аўтаматаў. Вечар. Пагром.

***Заля гульнявых аўтаматаў. Ноч***

Заля гульнявых аўтаматаў «Агні прэрый».
Індзеец, які трымае гэты прытон з ласкі штату.
П’яны каўбой апойвае віскі мулатку Мэры
І прымушае супольна пазбыцца шатаў.

Ані акцэнт іх размовы няясны мне,
Ані тое, ў імя чаго тут ліецца брага,
Але, ў прынцыпе, я разумею,
Чаму «Парламент» Манэ
Будзе аднойчы вісець у музеі Чыкага.

## Брытанскія авіяліній

Самалёт акурат уваходзіць
у паветраны калідор
паміж Беластокам і Брэстам.
Ён цягне за сабой белы шлейф у стылі цюдор,
нібы вытанчаная нявеста.
Гэты самалёт
з намі разам ляціць да зор —
на агні вялікага места.

І зубры не жуюць зуброўкі,
калі самалёт пралятае над Белавежай;
і егеры не жлукцяць зуброўкі,
калі самалёт пралятае над Белавежай;
і лесарубы спыняюць вырубкі,
калі самалёт пралятае над Белавежай;
і эколагі спыняюць пратэсты,
калі самалёт пралятае над Белавежай;
і браканьеры не страляюць эколагаў,
калі самалёт пралятае над Белавежай, —
кожнаму ёсць справа да гэтага самалёта.

Бо гэты самалёт не такі, як папярэднія самалёты.
Гэта самалёт трэцяга пакалення;
гэты самалёт налівае джын эканом-класу;
гэты самалёт слухаецца дыспетчараў;
гэты самалёт не саб'ецца з прызначанага яму курсу,
не абламае крылы аб тунэль пад мостам Альма;
над гэтым самалётам ніколі не заходзіць сонца.
Бог бароніць пілотаў гэтага самалёта.
Самалёт акурат пакідае ззаду заліў Гудзон,
на шляху — Мінесота.

Гэты самалёт відно
ў кожнае дыялогавае акно,
ён у кожным пасце й копіпасце.
Гэты самалёт не спрабуе легчы на дно
і амаль не баіцца ўпасці.
Пагатоў, камандзір экіпажу, шэпча: «Ну дзе ж ты ўпадзеш,
я ж цябе не кіну...»
самалёт акурат мінае Бірму і Бангладэш,
сказаўшы бай-бай Пекіну.

**Баляслаў Лесьмян**
*з польскай*

## Ружы

Рыцар уночы ў соннай аблудзе
Узняўся і жонку трывожна будзіць:
*«Сніў гэты сон я зноў,*
*Найдзіўнейшы са сноў.*

*Бачыў у сне я ружы і ружы,*
*Сястру тваю, маладзіка паўкружжа,*
*Бачыў яшчэ, што ёсць*
*У панны начны госць.*

*Сплыві жа, як кроў па нажы мне, дружа,*
*Зірнуць на сястру ў алькоў, дзе ружы,*
*І ля яе самой*
*Сон спраўдзіць: мой — не мой!»*

Тут жа на ложку ўкленчыла пані,
З кленчаў пачала выпраставанне
Й вырушыла ў паўзмрок,
Глушачы крокам крок.

Здалеўшы сходы між двух альковаў,
Шукала стуленых дзвюх галоваў,
Дзвюх параў рук вязьма,
Ды не знайшла — няма.

Ўбачыла толькі ружы і ружы,
Кожны бутон — барвовы і дужы:
Сон сестрын, нібы вуж,
Тоіўся ў яве руж.

Ўкленчыла ў змроку алькоўным пані:
*«Так невідочней маё чуванне!»*
Кожны каўтае ўздых,
Каб ейны кут аціх.

Поўнач, скарбніца сненняў глыбокіх,
Звонку прынесла босыя крокі.
Водгулле ўсчала рэй:
Нехта каля дзвярэй.

Кленчачы, пані вачэй не мружыць,
Кленчачы, бачыць: дух яе мужа
Чыніць бясплотны рух.
Цела спіць — ды не дух!

Вось ён да спячай, грозны, як ружжы,
Ідзе праз ружы, ідзе праз ружы!
Панну ўздымае з руж
На рукі жончын муж.

*«Спім мы абодва — і дух, і цела,*
*Хай робіць кожнае, што хацела!»*
Панну кладзе наўзнак —
Песціць прыдатней так!

Бледная, пані прыйшла пад ранне.
*«Муж мой, ці спіш ты?»* — Адказ — маўчанне.
*«Ружамі сон твой тхне!*
*Муж мой, пачуй мяне!»*

*Рыцар прачнуўся, глядзіць у вочы:*
*«Што за выпадак у цемры ночы*
*Мовы цябе пазбыў?*
*Быў госць у спальні?» — «Быў».*

*«Ці ён да спячай, грозны, як ружжы,*
*Ішоў праз ружы, ішоў праз ружы?*
*Панну ці клаў наўзнак?» —*
«*Так,* — шэпча пані, — Так». —

*«А ці ён бачыў, як зводзіш бровы,*
*Зводзіш як вусны ў праклёнаў словы,*
*Кленчыш, гнутая ў рог?» —*
*«Бачылі ён і Бог».*

Рыцар ускочыў з ложка: «*Ты ўзняла*
*Сну залатога майго забрала!*
*Я! Пазнаеш мяне?» —*
*«Гэткі ж ты быў у сне». —*

*«Сонныя ночы я з ёю бавіў,*
*Прагну адгэтуль таго ж на яве!» —*
Пані яму: «*Не руш.*
*Панны няма між руж.*

*Панну пасеклі на дзве палавіны,*
*Цела паклалі ў дзве дамавіны,*
*Дзве труны — склепам зруб:*
*Цяжкі з ёй будзе шлюб!»*

Рыцар ёй кажа: «*Памёрла рана!*
*Зноў я засну і знайду, дзе панна,*
*Трунаў сягну я дзвюх!*
*Я — пан, я — сон, я — дух!»*

*1920*

## Тры ружы

Са студні чутны йржавы рып вядра.
У садзе ціша. Спёка млявіць кветкі.
Зяленіва ля ветхае паветкі
Ільсніцца, лушчыцца з камля кара,
Са студні чутны гулкі пляск вядра.

Зірні, лісцё над намі — небам цэлым!
Зірні, як голле кроіць промні куца!
Знітуем душы і дазволім целам
Адно аднаму моўчкі адгукнуцца!
Зірні, лісцё над намі — небам цэлым!

Пах ружаў, птахаў спеў, дзве сон-душы,
Двух целаў у траве перапляценне,
І сонца лад сярод бязладдзя ценяў,
І ў спёцы раптам — цішы ледзяшы.
Пах ружаў, птахаў спеў, дзве сон-душы.

Але калі, паміж душой і целам
Квітнець у садзе гэтым ружы трэцяй,
Той, чый пурпур здалее тагасвеццe,
То ейны жар адным ёсць з намі цэлым,
Той ружы трэцяй, між душой і целам.

*1920*

## Глуханямая

А на вёсцы на нашай ёсць глуханямая.
Марыш чуць ейны голас, калі пад аблокі
гаваркія і спеўныя вочы ўзнімае...
Не адсюль яна, дом ёй — край нязнаны, далёкі.

Бацька ёй — сон забыты, імя ёй... быць можа
смерць імя назаве, ў галавах калі стане.
Я хацеў ейнай смерцю быць і ў гэтым маўчанні
слухаць струны, што Госпад правіцай трывожыў.

Думаў я, калі кіну ў тагасветнай аблудзе
на бясспеўныя грудзі зямлі ком дзяўчыне,
лебядзіную думай адгукнуўшыся, грудзі
стаю лебедзяў збудзяць у азёрнай даліне.

А за вёскаю нашай рака ёсць сівая.
Нейкі дзед у глыбіні закідваў мярэжы.
Я спытаў: «Што за рэчка?» — а дзед: «Не бывае,
каб імя мела тое, што тае ў бязмежжы.

Тыкіч — кажуць адны, а другія — Магіла.
Хто Далёкай, хто Блізкай заве — ды заўсёды
вер старым: безназоўныя гэтыя воды.
Ды й нашто рацэ назва? Дно ў сненнях згубіла».

А над вёскаю нашай боска вечарам шэрым…
Калі сонца згасае сном пра сны нетрывалым,
у душы паўстаюць незямныя хімеры
і ўспаміны пра тое, што не існавала.

Бачыў я ў такі вечар, як дзеўчына тая —
здань, з душою, ў якой быў памёр салавейка,
безгалосая скрыпка, без пастушкі жалейка
да ракі йдзе і рукі прывітальна прастае.

І, без слыху слухачка, стаіць над ракою,
вуды кос залатых занурыўшы ў глыбіні…
Мо хацела, рыбачка, сон злавіць галубіны —
голас свой, што са дна б’е бруёй шапаткою.

Альбо можа таму яна ладзіла ловы,
што хацела спаймаць свой адбітак валоссем:
мо хоць ён мае дар чалавечае мовы
й чалавекам раскажа ўсё, што з сэрца рвалося.

Вось выцягвае косы. Зоры ейныя вочы
Поўняць іскрай вячыстаю, цьмянай і соннай…

Сабе й свету чужая, на мяжы дня і ночы
безыменная здань над ракой безназоўнай.

*1912*

# Сястра Зоя і Канец Свету

## I. Сястра Зоя

1.

Кажуць, сястра Зоя
нарадзілася ў вайсковай частцы —
днявальны знайшоў яе ў тумбачцы,
загорнутую ў парцянку.
Калі ён нёс яе камандзіру,
за ім тоўпілася байцоў дваццаць,
нібы ў пансіянат кармелітак прымалі
новенькую,
*крывенькую*,
**негрыцянку**.
Спачатку яе хацелі аддаць
у найлепшы інтэрнат рэгіёну,
але бяздзетныя палкоўнік з жонкаю
яе ўдачарылі.
Калі яна ўпершыню адчула ў сабе
Ёну,
яна ўжо ведала
дзевяць лічбаў кірыліцай.

Падрастала дзяўчынка ціха —
як і любая кіціха.

2.

Сястра Зоя, колькі сябе помніла, чула ў чэраве сваім Ёну.
Калі яна яшчэ поўзала, ён казаў ёй:
«Устань і ідзі», —
або:
«Маўчы і сядзі», —
калі выклікалі да дошкі ў школе,
або:
«Дуры», —
калі аднакласніцы плявалі на чорны хвартушок,
або:
«Прыгожа», —
калі сонца сядала за КПП гарнізону.
А аднойчы, калі Ёна ізноў сказаў:
«Устань і ідзі», —
яна ўстала і пайшла —
у свет цэлы —
Ніневію,

на завод арганічнага шкла.

3.

Калі сястру Зою
высялялі з заводскага інтэрнату
падчас скарачэння,
ёй нешта казалі пра суворыя законы рынку.
З трох рынкаў гораду
яна абрала Дамаскі.
Яе былі нанялі ў шапік «Морапрадукты»,
але яна вырашыла, няхай гэта будуць фрукты.

Яна прадавала
бананы, апельсіны і ківі
шумерскім сялянам,
чарэшні і чарнасліў
падарожным у Дамаск
і вінаград вам,
дочкі Ерусаліму.
Яна працавала ў цесным фургончыку
з шасці да васьмі
і жыла ў ім
з васьмі да шасці.
У гэты перыяд яе жыцця
Ёна вырашыў,
што будзе расці.

4.

Дзівосныя дзялы твае, Госпадзе,
нават тыя, што ў магазіне на скрынках.
Навіну абмяркоўвалі ўсе на Дамаскім
і сёй-той на Вавілонскім рынках.
Варыянт з беззаганным пачаццем
агучваўся, але жартам.
Разглядаць ІП ейнага,
дзеда гэтага,
Юзіка
таксама было смеху варта.
Сышліся на тым,
што й ва ўбогіх бывае інтым.

А яна клалася ў сваім закутку,
калі на рынку рабілася ціха,
абхоплівала надзьмуты жывот,
задаволеная кіціха,
і ляжала так давідна.

Ёй здавалася, нібы
кіт — у ёй,
                                        а Ёна — яна.

5.

Ёна —
сусвет, які раптам сціснуўся
да эмбрыёна.

6.

Часам сястра Зоя выходзіла
дапамагчы грузчыку.
Аднойчы —
акурат на Каляды —
яны разгружалі дадатковыя мандарыны.
Грузчык быў нападпітку,
ён пацягнуў ніжнюю скрыню.
Зою зваліла з ног,
яна ляжала й глядзела,
як з неба лятуць мандарыны.
Некаторыя ляцелі ў скрынях,
некаторыя — самі,
і аб твар, грудзі, жывот
смешна шмякалі аранжавыя мячыкі.
Але галоўнае — цэлыя скрыні:
імі было балюча.
Пад лямант жанок і сірэну хуткай
яна патанула.

А калі яна ўсплыла,
навокал было ціха-ціха.
Ляжала яна на баку,
нібы выкінутая на бераг кіціха.
І калі доктар зайшоў пацвердзіць,
што Ёна сышоў з яе цела,
яна села на койцы,
добра ўсё ўзважыла
і звар’яцела.
Яна зразумела,
што гэтая ў ёй пустэча
хутка мусіць запоўніцца нечым.

## II. Канец Свету

### 7.

*Вальжыне, Галіне*

Сястра Зоя, калі засынала,
сніла Неба.
Нібы
Госпад наш Бог сабраў разам усіх бацькоў,
як Настаўнік на Сходзе,
устаў перад імі,
абапёрся плячыма дужымі
на сонца, якое ўзыходзіць,
і сказаў:

«Вось жа, шаноўныя, Адміністрацыя
скрайне незадаволеная
паспяховасцю вучняў Маіх
у апошняй чвэрці стагоддзя,
і таму ў наступнай пастанавіла правесці
пазапланавы Апакаліпсіс.
Адмыслова рыхтавацца не трэба,
проста майце на ўвазе, што ён адбудзецца.
Паколькі час і дата Канца Свету
дакладна яшчэ невядомыя,
грошы, сабраныя на рамонт кабінету,
пакуль што вяртаць не будзем.
Я думаю, выдатнікі годна падыдуць
да Суднага Дня,
а вось таварышам, за якімі грашкі,
варта было б падцягнуцца,
я зараз зачытаю спісы...»

Пераканаўшыся,
што Ёны ў спісах няма,
яна прачыналася.
Збянтэжаная,
не ведала бо,
як далікатней паведаміць сыну,
што ён больш у яе не адзіны.

8.

«Я зноў цяжарная», —

казала сястра Зоя сяброўкам ціхутка.
І голасна ўсім:

«Як вам тое, што Канец Свету — хутка?
Чакайце, мы ж з вамі разам чулі пра гэта!
Не, не святла — свету.
Хоць святло, вядома, знікне на самым пачатку,
ад чаго ляснуцца інтэрнэт і мабільная сувязь —
тады і пачнецца непасрэдна Апакаліпсіс:
павыбухаюць кацельныя,
згаснуць ЦЭЦ,
з кранаў выцеча ўся вада,
смецце спыніцца ў смеццеправодах
і беспрытульны прыродны газ
заструменіць па бязлюдных вуліцах».

Але, казала яна, не варта баяцца смерці,
бо гэта шчасце — легчы,
зазірнуць у блакіт Ягоных вачэй і памерці.
Вы б яе зразумелі, ўбачыўшы Ягоныя вочы.
Не, пра Збаўцу нічога не згадвалася,
хаця,
можа, гэта й яно —
яна носіць Яго дзіця.

9.

Гэтак казала сястра Зоя гандлярам на Дамаскім рынку,
доктаркам у жаночай кансультацыі,
бамжам на вакзале «Ніневія-пасажырскі»,
дачнікам у дызелі на Багдад
і нават у сюжэце моладзевай праграмы
Асірыйскага тэлебачання.
Рэжысёр быў думаў,
яшчэ адзін ролік пра гарадскіх вар’ятаў
у яго калекцыю,
але перад тэлескрынкамі ўсчалася паніка.

Праз тыдзень пасля эфіру,
згодна з міліцэйскай зводкай,
больш за семдзесят жыхароў
Акадскай і суседняй Шумерскай вобласцяў
патанулі падчас няўдалай спробы хрышчэння:
трыццаць скокнулі ў Тыгр і сорак два — у Еўфрат.
Ратаўнікі патэлефанавалі псіхіятрам,
псіхіятры выслухалі, паклалі слухаўку і адказалі: «Браць».
Сястра Зоя барукалася, яна пакусала трох санітараў пры затрыманні
і толькі пасля ўколу заснула ў прыймовым пакоі ў ванне.

10.

Канца Свету можа й не быць:
сястра Зоя, калі яе не пільнуюць, прымае меры.
Сястра Зоя, у анамнезе якой напісана:
«Лічыць, што яна — Багародзіца», —
мяняе падушкі на жываце
(1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9),
а потым
кладзецца,
рассоўвае ногі,                    тужыцца —
а
раптам        нехта
з яе
народзіцца.

11.

Для тых, хто сочыць
за сітуацыяй вакол
Канца Свету:

сястра Зоя бясследна знікла
з псіхіятрычнай лякарні.
Медперсанал бег на дзіцячы плач,
але знайшоў у палаце
толькі дзевяць падушак,
пялюшку, плямы на якой
складаліся ў выразны малюнак,
і тры паламаныя німбы
(адзін вялікі і два маленькія).
Слядоў уцёкаў альбо ўзнясення
выявіць не ўдалося.

12.

Ну і апошняе:
калі вы шукаеце тое,
што ўзняла нашую цывілізацыю
па-над плінтусам кайназою —
вам сястру Зою.

Кажуць, яна дагэтуль
ходзіць
недзе
па свеце,
а за ёю бягуць
белы коцік
і чорны выжал,
і калі да яе падыйсці,
сказаўшы:
«У цябе прыгожыя дзеці», —
то нават падчас Канца Свету
магчыма выжыць.

А знайсці яе вельмі проста.
Трэба:
- вызначыць каардынаты месца,
у якім Radio Maria беззаганна вяшчае на хвалі 88,14;
- вызначыць каардынаты Храма Хрыста Спасіцеля;
- вызначыць каардынаты Гроба Гасподняга;
- апусціць простастаў на найбольшы
з бакоў атрыманага трохкутніка;
- у пункце перакрыжавання простастава з асновай
паставіць латок з:

-к-а-р-а-л-я-м-і-

бРоШ
Камі
зАвуш-

-нцАмі

-бр-
-ан- -за-
-ле -та-
-мі-

с у к м
т ж а і

кр і мі
аб ка

гРаБяНцАмІ

гОлкамі

невідзімкамі імакрэтсюл

і іншымі прадметамі,
неабходнымі ў штодзённым жыцці, —
і тады Багародзіца Зоя,
па муках ходзячы,
не зможа міма прайсці.

# An die Freude

мы вибирались із бундесу
**Сяргій Жадан**

Мы ўзнялі аглаблёвую
ў белай-белай кватэры
маёй нямецкай сяброўкі
ў былым Заходнім Берліне.
Ненавязліва-дэпрэсіўны рачок
на вінампе
нечакана змяніўся
узнёслай класічнай мелодыяй.

— Гэта нейкі новы поп-хіт, — сказала Ірма.
— Я часта чую яго з тэлевізара, — пацвердзіў Б’ёрн.
— Хто ведае, як называецца гэтая песня? — спытала Сара.
— Ода «Радасці», — сказала я.
— Словы Шылера, — сказала Алеся.
— Музыка Бетховена, — сказала Алена.
— Гімн Еўразвяза, — сказаў Уладзь, абуваючыся.

Мы выйшлі крыху раней.
Трэба было думаць,
дзе купіць харчы на дарогу:
мы пакідалі бундэс.

# Амбасада

*серыял*

## README.TXT

***змест тэкставага файлу на першым дыску***

```
Створаны 15.11.2008
Зменены 29.05.2011
```

*Ксеня, мілая, як ты й прасіла,*
*я запісала для цябе «Амбасаду».*
*Серыял гэты — страшная сіла,*
*у вас таксама на яго падсядуць.*

*Звычайнае тэлевізійнае мыла,*
*ружовае жыццёвае мяса*
*нечакана падалося мілым*
*рафінаванай інтэлігенцкай масе.*

*Падабаецца ўсё:*
*і сюжэты, што пазнаходзілі,*
*і зоркі, якіх запрасілі*
*(ацані, дарэчы, геніяльную гру генеральнага злодзея —*
*пасла Гарсіі).*

*«На ўра!» прайшло чатыры сезоны,*
*здымаюць пяты.*
*Пралічыў жа нехта: не горш за будні лякарні ці будні зоны*
*спадабаюцца іншаземныя дыпламаты.*

*Але я фурор серыялу такога ў маёй краіне*
*разглядаю йначай.*
*У чэрані вачэй консула Сафі загіне*
*любы, хто бачыў:*

*— як тыя, што сталі з ночы, вучаць запоўніць анкету*
*тых, што сталі надоечы,*
*нібы старыя сухотнікі вучаць нядаўна хворых*
*правільна плюнуць у слоічак,*
*нібы знятыя з трубкі раней вучаць знятых з трубкі пазней*
*наноў размаўляць;*
*— як дзяўчаты бяруць пашпарты з адмовамі,*
*нібы мёртвароджаных немаўлят;*
*— як малпа ў цырку цукерку хавае ў кішэні*
*ці ў заапарку краты грызе мядзведзь, —*
*хто бачыў усё гэта, той, Ксеня,*
*будзе яго глядзець.*
*…*
*Вось жа, мілая Ксеня,*
*я закругляю сваю іліяду.*
*Да хуткага пабачэння.*
*Прыемнага, Ксеня, прагляду.*

## ТРЭЙЛЕР

**Надзвычайны і Паўнамоцны Амбасадар Палабскай Рэспублікі ў Рэспубліцы Беларусь звяртаецца да тэлегледачоў**

Я — Гулівер, пасол у рэспубліцы ліліпутаў, дзе мне ніхто не рады;
я сеў, адмысловы, як гелікоптэр, на дах сваёй амбасады,
я ведаю ўсе яе шчылінкі, ўсе закуткі яе, вушакі і клямкі,
я трымаю яе на руцэ, як святыя на фрэсках — замкі;
мы з маёй амбасадай бачым далёка і — ува ўсе напрамкі.

«Аднойчы наступіць час і мы з табой пазбудземся гора,
я вазьму цябе за вільчак і панясу цябе да цёплага мора,
туды, дзе няма зімы, у шчасны цень сікамора.
Гэта будзе, будзе, — шапчу я ёй у вакенца, — хоць і няскора»...
Я захутаны ў шаль, сумую і пачуваюся хвора.

Быць фарпостам вялікага ў краіне малога — шчэ тая драма.
Гэта быццам бы ты — Іштар, і вось твая брама,
быццам бы ты — лавец у полі, па вушы ў жыце...
Я хапаю вас пальцамі за каўняркі, калі вы бяжыце.

## ПІЛОТНАЯ СЕРЫЯ

Дзень добры.
Вы датэлефанаваліся
да Консульскага аддзела
Амбасады Палабскай Рэспублікі
ў Рэспубліцы Беларусь.
Каб атрымаць інфармацыю на палабскай мове,
націсніце ў тоне 4;
на расійскай мове — 5;
на беларускай мове — 6;
чакайце з'яднання з супрацоўнікам Консульства.

*(узнёсшы ў думках хвалу спадарыні Ірэне, выкладчыцы з двухгадовых бізнес-курсаў палабскай мовы, ён націскае)*

4
……………..

— Консульскі аддзел, слухаю вас уважліва.
— Вітаю. Турбуе віцэ-дырэктар кампаніі «Белмаркет». Мы падавалі дакументы на візы, і нам рэкамендавалі патэлефанаваць сёння, даведацца, калі можна забраць пашпарты.
— Хвілінку, калі ласка… Фірма «Белмаркет», чатыры асобы… Так, візы гатовыя, можаце забіраць сёння а трэцяй.
— Вялікі вам дзякуй!

*(жахліва знямечаная граматыка: падзякаваць — гэта адзінае, што ён можа зрабіць без памылак; але ж інтанацыі — палабскія інтанацыі носьбітаў мовы — музыка для слыху; няхай яна працягвае гаварыць)*

— Але момант… Візы пачынаюцца не заўтра, як вы прасілі, а з пятага. Праз тры дні.
— Як такое можа быць?
— Так часам бывае, даруйце, ад нас нічога не залежыць. Галоўнае, што вас увогуле ўпускаюць у краіну. Паляціце пятага.
— Дзякуй, канешне, але гэта пазнавата.

*(у яе прастуджаны голас; некаторым жанчынам гэта пасуе)*

Мэта камандзіроўкі — удзел у тэндэры. Праз тры дні карэта ператворыцца ў гарбуз.
— Спачуваю, але можа, нешта яшчэ магчыма перанесці? Палабія вельмі прыгожая ў гэтую пару года.
— Вы сапраўдная патрыётка. Дзякуй за суперажыванне.

*(ніколі б не чакаў ад чыноўніцы)*

Здараецца. Мілага дня.
— Не забудзьцеся забраць пашпарты. І яшчэ раз даруйце.

*(гудкі сталі кароткія-кароткія, як спадніцы яго першай жонкі, як валасы апошняй каханкі)*

## ПЕРШЫ СЕЗОН

Дзень добры.
Вы датэлефанаваліся
да Консульскага аддзела
Амбасады Палабскай Рэспублікі
ў Рэспубліцы Беларусь.
Каб атрымаць інфармацыю на палабскай мове,
націсніце ў тоне 4;
на расійскай мове — 5;
на беларускай мове — 6;
чакайце з'яднання з супрацоўнікам Консульства.

6
……………………………………………………………
……………………………………………………………
……………………………………………………………

*(іранічна пасміхнуўшыся, яна націскае)*

5
……………..

— Консульства.
— Добры дзень. Хачу даведацца, ці гатовая мая віза… Красінская Алена, 1985 г.н.
— Красінская… Хвілінку… Дакументы разгледжаныя, але ў вас адмова.
— …А… адмова?
— Пашпарт можна забраць у любы працоўны дзень з трох да чатырох у любым вакенцы.
— Чакайце, як адмова? Я падавала на студэнцкую візу. Я вучуся ў Палабіі. Я там вучуся, я там… стажыроўка… буду вучыцца… семестр…

— У вас у анкеце пазначана, што вы не замужам і ў вас груднае дзіця. Дзіцю, дарэчы, адмоўлена таксама. Я не разумею, дамачка, на што вы спадзяваліся з такой анкетай.
— Маладыя маці не маюць права вучыцца ў Еўропе?
— Вы ведаеце, колькі невяртанак у нас менавіта па студэнцкай візе? На паперы *(шоргат паперы)* — факультэт славістыкі, а насамрэч — жаніх пад Дзюсельдорфам.

*(Божухна,*
*адкуль яна ведае пра Курта?*
*Нават яе маці не ведае пра Курта,*
*нават яе хлопец не ведае пра Курта,*
*нават яе сяброўкі не ведаюць пра Курта)*

— Дзякуй за інфармацыю.
— Да пабачэння.

*(гудкі сталі кароткімі-кароткімі, як ранішні сон немаўляці, як перапынак паміж кармленнямі)*

**Лена калыша дзіця**

Квіткі ў руцэ,
страхоўкі ў руцэ,
раву, як зарэзаная карова
па няздоеным малацэ.

Не грузіцца пошта сённейка,
не прыатачваецца атач,
але галоўнае, сонейка,
галоўнае — ты не плач.

Не плач, мая дзетка,
не плач, мой родны сынок,
я падару табе гэткі
чароўны чырвоны савок.
яго залаты пясок
у формачку вы-
бягае,
хто
мае
такі
савок,
той
права
мае.

Кепскіх дзетак з рукі
можна біць ім па галаве,
хто мае савок такі —
той доўга жыве.

Той паміж дзетак нарком,
хто мае савок такі.
Такім чароўным саўком
можна спыняць цягнікі.

Можна садзіць «ілы»
з восені да вясны
гэтым саўком, мілы,
на аэрадром лясны.

Гуляйся, сынок, як м*а*е,
гуляйся саўком да пары,
калі мы савок закапаем
у схіл Дзяржынскай гары,

калі я прадраблю зубамі,
прагрызу,
пракушу мяжу
і на Потсдамэрпляц,
на Курфюрстэндаме
цябе нараджу.

## ДРУГІ СЕЗОН

```
Дзень добры.
Вы датэлефанаваліся
да Консульскага аддзела
Амбасады Палабскай Рэспублікі
ў Рэспубліцы Беларусь.
Каб атрымаць інфармацыю на палабскай мове,
націсніце ў тоне 4;
на расійскай мове — 5;
на беларускай мове — 6;
чакайце з'яднання з супрацоўнікам Консульства.
```

6

.........................................................

6

.........................................................

6

.........................................................
.........................................................
.........................................................

— Консульства.

— Алё, шаноўная! Як файна, што я да вас нарэшце датэлефанаваўся! Ведаеце, у гэтай краіне так рэдка можна

пачуць нашу спеўную мову… І тым больш прыемна, што вы — беларусачка — працуеце на такой высокай пасадзе — у прадстаўніцтве еўрапейскай дзяржавы. Гэта — сведчанне таго, што…
— Якая ваша праблема?
— Я — малады пісьменнік, паэт і літаратурны крытык Янка Ліхтаровіч…
— І?..
— Тэлефаную, каб пацікавіцца, ці гатовая мая палабская віза.
— Ліхтаровіч… Ліхтаровіч… Даруйце, такіх у базе няма.
— Перапрашаю, зусім забыўся. Па пашпарце маё прозвішча Свістункоў.
— Свістункоў Іван, 1980 г.н.?
— Так.
— Вашай візы пакуль няма.
— Як няма? Не можа быць!
— Гэта абсалютна дакладна.
— І што мне рабіць?
— Тэлефануйце заўтра.
— Як гэта заўтра? Заўтра пачынаецца фестываль: даты чорным па белым прапісаныя ў запрашэнні!
— Гэта не мае значэння. Вы падалі на візу ўсяго тыдзень таму.
— Ну і што? Фестываль жа заўтра! Гэта ж па лініі культуры!
— Даруйце, нічога не магу зрабіць.
— Шаноўная, гэта непаразуменне! Вам павінен быў тэлефанаваць старшыня Саюза палабскіх пісьменнікаў! Мой удзел скрайне неабходны: я адзіны, хто будзе прадстаўляць Беларусь на міжнародным узроўні на гасціннай палабскай зямлі! Мае вершы ўжо пераклалі на палабскую мову! Як жа так?
— Па гэтых дакументах няясна, навошта вы едзеце ў Палабію, — вершы чытаць ці на шопінг. Вы не далучылі даведкі з месца працы, якая б сведчыла, што вы — пісьменнік.
— Якое яшчэ месца? Якая праца?! Якая даведка?!! Ды мяне на вуліцах пазнаюць!!!
— Спачуваю.

— Паненка, як жа так? Няўжо вы нічога не можаце зрабіць? Вы ж бе-ла-рус-ка-моў-на-я!
— Усяго найлепшага.
— Гэта хамства! Гэта непрыхаванае хамства! Я буду скардзіцца ў ААН!
— Калі ласка. Тэлефон падказаць?
— Ну ладна, з ААН я пагарачыўся. Але ў ПЭН-цэнтр — у ПЭН-цэнтр я абавязкова буду скардзіцца!
— Хоць чорту лысаму.

*(гудкі сталі кароткія-кароткія, як вузлаватыя пальцы яго далані, як пункцір, як хайку)*

**Малады пісьменнік, паэт і літаратурны крытык Янка Ліхтаровіч скардзіцца чорту лысаму**

Дык вось, каб вы ведалі:
Праўда ўсё роўна праступіць,
як праступала прозвішча дзірыка
паўзверх свежай фарбы побач са словам «ПІДАР»
на адзіным муры,
не бачным з акна яго кабінету.
Ён выбягаў ува двор,
варта было запаліць цыгарэту,
і мы лёталі ад яго вакол школы ці па двары,
палячы на хаду, —
гэта быў феерычны гармідар.

Праўду нельга схаваць,
як хавалі ўлады ў двары нашай школы
разгон дэманстрацыі
(паркавалі там бэтээры
і шыхтавалі жаўнераў),
мы бачылі гэта штотыдня
з акна кабінета белмовы

(нас там вучылі белмове).
І няхай дэ юрэ вы маеце рацыю,
чым вы розніцеся ад тых, хто тады паркаваў бэтээры,
панове?

Дзірык наш не ўхваляў бэтээраў,
але прымушаў і нас, і дзяўчат
насіць «дзелавыя строі»
і не выглядаць «эпатажна».
Дык вось: як ён нас ні строіў —
менш, чым праз год
гэта стала зусім няважна.

Колькі б вы ні мяшалі Праўдзе
егермайстар у белаколу,
каб тая сніла алкагольныя сны,
на кожную — вы чуеце??? — кожную вашу школу
знойдзецца выпускны.

## ТРЭЦІ СЕЗОН

Дзень добры.
Вы датэлефанаваліся
да Консульскага аддзела
Амбасады Палабскай Рэспублікі
ў Рэспубліцы Беларусь.
Каб атрымаць інфармацыю на палабскай мове,
націсніце ў тоне 4;
на расійскай мове — 5;
на беларускай мове — 6;
чакайце з'яднання з супрацоўнікам Консульства.

5
……………..

— Консульства
— Алё! Гэта я з кім я гавару?
— Консульскі аддзел Палабскай Рэспублікі, слухаю вас.
— Гэта гора ў нас здарылася. Гэта сёння з Палабіі тэлефанавалі. Гэта Баба Ропа памерла. Нечакана. А візы вашыя год як скончыліся. Сказалі, вам трэба званіць, вы скажаце, што рабіць, каб на паховіны пусцілі.
— У якім сваяцтве знаходзілася з вамі нябожчыца?
— Гэта хросная маці яна мне. Гэта суседка наша. Гэта замест роднай мне была, як бацькі загінулі, ды вось на пенсіі да брата перасялілася, на радзіму. Хто ж ведаў, што так раптам, здаровая была, як…
— Хросная — гэта не сваяцтва. Консульства не зможа аформіць вашай сям'і візы пазачаргова.
— Як жа не сваяцтва? Я ж вам кажу, яна мне як маці была! Дзеці мае яе бабуляй завуць!
— Калі ў вас няма дакументаў, што пацвярджаюць сваяцтва, — вам у чаргу па візы на агульных падставах.
— А Езу ж, там жа да вас месяц стаяць трэба!
— Такія правілы.
— А дзевачка ж мая, а што ж нам рабіць?
— Прыязджайце і спрабуйце патрапіць да віцэ-консула.

*(гудкі сталі кароткія-кароткія, як ноч на Яна Купалу, як пёркі цыбулі ўвесну)*

## ЧАЦВЁРТЫ СЕЗОН

Дзень добры.
Вы датэлефанаваліся
да Консульскага аддзела
Амбасады Палабскай Рэспублікі
ў Рэспубліцы Беларусь.
Каб атрымаць інфармацыю на палабскай мове,

```
націсніце ў тоне 4;
на расійскай мове — 5;
на беларускай мове — 6;
чакайце з'яднання з супрацоўнікам Консульства.
```

4

……………..

— Консульскі аддзел. Звяртаем вашу ўвагу, што мы ўжо зачыняемся.
— Добры вечар… Вы мяне, відаць, не згадаеце... Я тэлефанаваў вам учора.
— Відаць, не згадаю.
— «БелМаркет», чатыры візы.
— Так, згадала. Нейкія праблемы з пашпартамі?
— Не, усё ў парадку. Проста гадзіну таму я мусіў вылецець у Палабію. Але паколькі так склалася з візамі, вечар свабодны, і мне няма чым заняцца. І, уявіце сабе, ніводная жывая душа, апроч вас, не ведае, што я ў горадзе.

*(хлусня… ведаюць — як мінімум тры душы, з якімі ён збіраўся ляцець)*

— Так… І чым я магу вам дапамагчы?

*(службовая інструкцыя ў такіх выпадках — як мага ветлівей абарваць размову і павесіць слухаўку; але начальства ўжо мітусіцца, збіраючыся; і гэты голас не падобны да тых, што належаць псіхам, якія тэлефануюць па расійскай і беларускай лініі; да таго ж, забаўна слухаць, як старанна гэтыя ўсходнікі вымаўляюць палабскія насавыя галосныя; і ў рэшце рэшт, ёй таксама няма чым заняцца ўвечары ў гэтым горадзе)*

— Проста я падумаў, раз ужо мы з'яднаныя своеасаблівай змовай, то можна было б працягнуць гэту рызыкоўную гульню ўпляцення адно аднога ў розныя сакрэты.

— Гм?
— Так, я ведаю, чым мы маглі б заняцца. Мы можам апавесці адно аднаму пра свой таемны страх.
— Я не разумею, пра што вы.
— Зараз зразумееце, бо я пачынаю. Вы будзеце першым чалавекам, каму я прызнаюся ў гэтым. Слухайце… Вы слухаеце мяне?
— Так, я вас слухаю.
— Дык вось. Мой таемны страх — гэта тое, што я баюся спаць адзін у пакоі.
— Ага…

*(цікава, ён заўжды чапляе жанчын на гэтае какецтва?)*

— Вы думаеце, я какетнічаю, каб зацікавіць вас? Гэта не так. Я сапраўды панічна баюся начной самоты ў пакоі. Заўважце, не ў ложку.
— І няўжо ніхто не ведае?
— Бацькі ведалі, калі я быў маленькі. Але яны думаюць, я перарос. Магчыма, гэта паталогія, але яна прадвызначыла маё жыццё. Як толькі я навучыўся гаварыць, я пераканаў маму з татам, што мне патрэбны брацік ці сястрычка. Я прывёў у дом жонку, як толькі малодшы брат з'ехаў за мяжу. Я хацеў стаць гісторыкам, але пайшоў у бізнес, каб заўжды мець грошы для кагосьці за ноч са мной у адным пакоі. Заўважце, не ў ложку. Калі пасля захаду сонца я застаюся сам-насам, мне ўсё адно здаецца, што нехта побач. Тагасветны нехта. І што калі я засну, я больш не прачнуся. Вось такі мой страх. Што скажаце?
— Мае спачуванні…

*(ну і лухта)*

— Вы можаце думаць, што гэта лухта, але ад таго, што я здолеў прызнацца ў гэтым сваім дзівацтве, я адчуваю палёгку. Вы мяне зразумееце, калі апавядзеце мне пра свой страх.

— Я нічога і нікога не баюся.
— Я вам не веру. Апавядзіце, вось пабачыце, стане зусім не страшна.
— Добра, я паспрабую. Толькі запару гарбату…

## Супрацоўніцтва консульства апавядае пра свой таемны страх

Пачаць, мусіць, трэба з таго,
што быў у мяне аднакласнік,
Ленін,
сын брытанскага дыпламата.
Ленінаў бацька, ура-камуніст,
знарок абіраў для працы такія краіны, як наша,
і аддаваў дзяцей у звычайныя школы,
каб вывучалі жыццё,
каб ведалі розны «рашн».
Сяброўства наша цякло беззаганна:
«Nirvana»,
першы партвейн на даху
выразна савецкага гмаху,
мы там тырчэлі начамі
без аніякага страху
вышыняў і будучыні,
што закаханых у чатырнаццаць
рэдка калі назаўжды злучае.
Ягоныя продкі пасмейваліся,
мае былі проста ў адчаі.

У адрозненні ад бацькоў,
эстэтыка капіталізму
Леніна ўскрай займала.
«Ведаеш, дыпламатыя —
гэта як серыялы:
спачатку прыколвае,
потым зацягвае,

і ў рэшце рэшт задзірае:
тыя ж твары, тэмы, інтрыгі,
вечная санта-барбара,
клішэ для бульварнай кнігі,
тонкія жарты,
тонкія цыгарэты,
тонкія пальцы ў брыльянтах,
артрытам скалечаныя.
У дыпмісіях добра тое,
што, як і серыялы,
яны цягнуцца доўга, але не вечна...»

Пасля гэтага яны закацілі заключную серыю —
сталюдны прыём, на якім мы з Ленінам
тырылі з кухні крэветкі і цалаваліся.
Пасля гэтага яны спакаваліся,
і памянялі Палабію
на іншы абломак Берлінскага муру.
Я і Ленін, канешне, здуру
кляліся пісаць лісты,
але ж вы разумееце…

— Можа, давай на ты?

— Але ж ты разумееш…
Нядаўна мы зноў знайшліся з ім —
па інтэрнэце.
Колішняй даверальнасці
нам не свеціць.

Ленін з’ехаў. Але засталася
мара ў чорным ільсняным фраку.
Мара мяне давяла
да замежнага аддзялення юрфаку.

На стажыроўках усё было так,
як я і ўяўляла,
як у «Дынастыі»,
як у нашых бабуль калісьці:
балі, рауты, перамовы,
дамы ў кальe,
мужчыны, за якіх можна выйсці,
дарагія гадзіннікі,
дарагія кантракты,
дарагія хобі,
асобнае лобі для жонак,
асобнае вайсковае лобі,
палявыя лілеі і птахі нябёсныя
з келіхамі Божай расы
(яны й сапраўды
не п’юць звычайнай вады)...

Ды рэкламная паўза скончылася.
Мяне размеркавалі сюды.

— Прымі мае спачуванні. Я чуў, Беларусь для Еўропы — дыпламатычная высылка.
— Хутчэй дыпламатычная лінія фронту. Добры шанец для бязроднага жаўнера дaслужыцца да кар’ернага генерала. Так я казала сабе, калі пагаджалася на камандзіроўку. Сурочыла... Як ты, мусіць, ведаеш, на Беларусі загінула шмат палабаў.
— Ведаю,

*(дзякуй спадарыні Ірэне)*

падчас першай сусветнай, у складзе кайзерскіх войскаў.

— Акупанты супраць уласнай волі... Як добра, што мы і вы цяпер незалежныя, — казала я сабе, намацваючы выгоды сваёй першай місіі. Малым краінам лёгка паразумецца... Але

ў вашай няпростая радыяцыя і такая ж палітыка... Асноўная наша праца — не кантракты на пастаўкі ротарных жняярак, не абмен школьнымі джаз-бэндамі... Асноўная наша праца — выдаваць-не выдаваць візы, ляпіць дазволы-адмовы. Офісны планктон, а дакладней, акопныя пацукі — вось мы хто, а не дыпламаты. Нехта пераключыў канал на расійскі серыял пра вайну, бязлітасны й бессэнсоўны.
Тут, на фронце, ні хвілі спакою: то паэт, пакрыўджаны на аташэ па культуры, ціскане антыпалабскі пасквіль у мясцовай прэсе, то вар'ятка абліецца бензінам і абяцае не паліць сябе і дзіця ў абмен на візу... Ці гэтыя чэргі... Ты бачыў гэтыя чэргі...
— Я стаяў у гэтых чэргах.
— Эмоцыі кіпяць так, што даўно разварылі магнітнае поле. Апошняя кропля не прымусіла доўга чакаць. Аднойчы спадарыня віцэ-консул не зрабіла саступкі ў пытанні, у якім чыста па-чалавечы мелася б пайсці насустрач: без нейкай даведкі не выпусціла людзей на хаўтуры. Цётачка ля вакенца падачы плакала і крычала: «А каб вас трасца!» Я сама чула, я прыходзіла афармляцца акурат у той дзень. На наступны спадарыня віцэ-консул не заступіла на службу. Яе знайшлі дома з сімптомамі сыпнога тыфу. Тады й пачалося. То ахоўнік пап'е вадзічкі і валіцца з дызентэрыяй, то сакратарка ўступіць ля ксераксу ў кубло гнойных бінтоў... А ў генеральнага консула спадара Б. знайшлі гніды!
— Нейкая чартаўшчына.
— Банальная паранармальная з'ява. Вашы продкі збудавалі бетонны кораб, што мы здымаем, на скапаных вайсковых могілках. І цяпер нам нейкім экстрасэнсорным рэхам адгукаюцца трасцы першай сусветнай, ад якіх у тылавым Менску канали людзі... Нас ужо свяціў бацюшка, бласлаўляў ксёндз, прычашчаў палабскі пастар... Але ўсё марна: стаіць спёка, людзі працягваюць падаць. Кажуць, трасца пратрывае да маразоў. Разумееш, мы тут сапраўды нібы ў акопе. Трасемся ад жаху, хаваем чэпэ ад эмзээсу. Інакш сюды ўвогуле ніхто не паедзе. Нехта мусіць прыходзіць сюды штодня і штампаваць візы.

— Хіба табе дазваляюць расказваць такія рэчы?
— Мне ўсё адно. Дзякуй, што змусіў мяне гаварыць пра гэта. Ведаеш, я цэлы дзень думаю не аб працы, не пра вашыя пашпарты. Я гадаю, якая трасца спасцігне мяне? Пранцы, якія бязногі прапаршчык падарыў санітарцы? Цынга ад авітамінозу? Гангрэна ад штыкавога ранення? Гішпанка? Куля-дура? У свабодны час я вандрую па вікіпедыі...
— Значыць, такі ён, твой таемны страх?

— Не. Бывае страх, але гэта наўпрост — вусціш,
штосьці, што закапаў глыбока ў сябе і песціш,
страх — выток, а тое, што са мной, — вусце,
і найгорай — калі застаешся адна ўрэшце.
Добра, калі галасы — суседзі жлукцяць гарэлку
ці плыту з камедыяй пусціш, —
ды калі западае моўча — надыходзіць вусціш,
насоўваецца, казыча цельцам, як вусень,
хлеб наразаеш — і вусціш гусцее на кожнай лусце,
ванну напоўніш — і ванна поўная ржавай вусцішы,
вусціш паўсюль, яна пачынае цябе весці,
мыць, выціраць, гушкаць і спаць класці,
і чытаць на ноч страшную казку спальных прадмесцяў.
Я так больш не магу...

— Ведаеш, тут я не профі,
але разам лягчэй у тым ліку
гнаць вусціш з гары...

— Мне пара. Ахова пламбуе офіс.
Ты мяне набяры…

*(перад тым, як гудкі сталі кароткія-кароткія, яны паспелі абмяняцца нумарамі мабільнікаў)*

## ПЯТЫ СЕЗОН

Дзень добры.
Вы датэлефанаваліся
да Консульскага аддзела
Амбасады Палабскай Рэспублікі
ў Рэспубліцы Беларусь.
Каб атрымаць інфармацыю на палабскай мове,
націсніце ў тоне 4;
на расійскай мове — 5;
на беларускай мове — 6;
каб пагаварыць з роднымі і блізкімі,
памерлымі сёлета на тэрыторыі Еўразвязу,
націсніце 0.

0
……………………………………………………..

— Алё? Мама! Мама! Чуеш мяне?
— Чую, дачушка, добра чую!
— Я цябе саўсім дрэнна чую… Мама, у любы момант могуць раз’яднаць. Скажы хоць два словы: як прайшло тваё пахаванне?

— Ой, добра, дачушка, добра!
Хаўтуры мае грымелі
ад Ганцаўкі аж да Бобра!
Як усё было:
нарвала і секла
свінням траву я.
А потым уся неяк села —
і ўжо не жыву я!
Ну і вэрхал жа быў —
ажно з самае гміны
панаехалі санітары!

І разрэзалі, і зашылі,
і паклалі на дно дамавіны
ў касцюме шарым.
Ой, касцюме шарым,
а па хустцы святочнай —
чырвоныя макі!
А проці ночы
па вёсцы вылі сабакі.
Ой, як вылі яны!
як рохкалі галодныя свінні!
А зранку накрылі труну маю
штандарам сінім.
Ой, штандарам сінім
у зорачкі залатыя,
а як мяне неслі па вёсцы —
так ззялі зорачкі тыя.
Ой, ззялі-зіхцелі!
Як прынеслі мяне на клады,
то ўзнялі за ражкі
труну маю чатыры анэлі,
і над долам узнеслі,
і запяялі песню
очынна смутную.
Ой, слічна яны пелі!
Ой, пелі-спявалі! —
аж ад зайздрасці бабы рыпелі,
як мяне хавалі!

— Мама, даруй, ніяк не змаглі прыехаць. Візы — не далі нам візы! А так, канешне, вельмі хацелі быць усе: і Стась, і Ліза… Ліза очынна хацела быць, очынна. Тры ночы плакала яна, тры ночы. Ліза! Ліза! Хадзі сюды хутчэй! З бабуляй пагаворыш! Ліза!!!!!

— Алё, бабуля?

— Дабрыдзень, унучачка, дабрыдзень. Ну, расказвай, як дзялы.
— У мяне добра ўсё. Вучуся ў горадзе. На пятым курсе ўжо. Працую. Дыплом пішу.
— Пішы, унучачка, пішы. Вучыся. Замуж яшчэ не выйшла?
— Яшчэ не выйшла, бабуля.
— І правільна, не выходзь, пакуль можна, а то замужам плакаць будзеш. Ой, будзеш плакаць!
— Бабуля, мне вельмі-вельмі шкада, што ты памерла.
— Ды чаго шкадаваць? Я ж старая была. Галоўнае, каб вы, маладыя, былі здаровыя… Ну, што ты ўсё плачаш? Не плач, гэта не гора. Гора замужам будзе, тады і плакаць будзеш.
— Я да цябе летам хацела заехаць, мне летам могуць даць візу, па моладзевай адукацыйнай праграме. Хто ж ведаў, што ўсё так абернецца?
— А ты на магілку заедзь, Ліза. Магілка ў мяне пекная. Месца вельмі выгоднае. Сама выбірала.
— Дык што, бабуля, я цябе больш ніколі-ніколі не пабачу і нават не пачую?
— Не пабачыш і не пачуеш, унучачка, не пачуеш.
— Калі так, то, заспявай мне, бабулечка, калыханку. Як маленькай. У апошні раз.

**Баба Ропа спявае калыханку**

спіць у гародзе смарода,
бэз мой прымружыў вочы,
толькі ты, мая родная,
прэшся на цягнік проці ночы

спіць уся нашая вуліца,
ўпалі гасподы ў кому,
толькі ты, мая вумніца,
і дарма тут не ўпала нікому

спіць у будцы сваёй сучка,
як і заўжды спала,
толькі ты, мая ўнучачка,
і дарма тут нікому не ўпала

спяць у стозе вілы —
адпачні, мілая

спяць у зямлі трубы —
астынь, любая

спяць у банку грошы —
адвянь, харошая

спяць у пашпарце візы —
не гудзі, Лізанька
не нудзі, Лізанька
не зудзі
……………………………..
*(абрыў сувязі)*

*P.S.: Заставалася месца, Ксеня:*
*запісала яшчэ ўсе выпускі*
*«Ну, погоди!»*

# Змест

*Марыя Мартысевіч нарадзілася ў 1982 годзе ў Мінску.
У 2008 годзе выдала кнігу эсэ ў вершах і прозе
«Цмокі лятуць на нераст». Жыве ў Мінску.*

*Літаратурна-мастацкае выданне*

**Мартысевіч** Марыя Аляксандраўна

АМБАСАДА

*Вершы свае і чужыя*

Адказны за выпуск *Г. Вінярскі*
Рэдактар *А. Хадановіч*
Дызайнер *М. Осіпаў*
Карэктар *А. Пятровіч*
Вярстальнік *С. Кандрацэнка*

Падпісана да друку 22.07.2011. Фармат 84x108 $^{1}/_{32}$.
Папера афсетная. Друк афсетны. Ум. друк. арк. 5,25.
Ул.-выд. арк. 4,84. Наклад 500 ас. Зак. 544.

ПУП «Кнігазбор».
Ліцэнзія № 02330/0003924 ад 08.04.11.
Вул. Я. Лучыны, 38-93, 220112, Мінск.
**Тэл./факс (017) 207-62-33,**
**тэл. (029) 772-19-14, 682-83-86.**
E-mail: bkniha@tut.by

Надрукавана з арыгінала-макета заказчыка
ў ААТ «Аргбуд».
Ліцэнзія № 02330/0494197 ад 03.04.09.
Вул. Берасцянская, 16, 220034, Мінск.